Вярхоўнага Совета БССР, раённыя Советы дэпутатаў працоўных утвараюць аддзелы комунальны і мясцовай прамысловасці.

**Артыкул 70.** У адпаведнасці з умовамі раёна, на аснове законаў СССР і БССР, з зацверджання Совета Народных Камісараў БССР, Народны Камісарыят Унутраных спраў утварае пры раённых Советах дэпутатаў працоўных кіраўніцтвы.

**Артыкул 71.** Аддзелы раённых Советаў дэпутатаў працоўных падпарадкуюцца ў сваёй дзейнасці як раённаму Совету дэпутатаў працоўных і яго выканаўчаму камітэту, так і адпаведнаму аддзелу акруговага Совета дэпутатаў працоўных і адпаведнаму Народнаму Камісарыяту БССР.

**Артыкул 72.** Гарадскія Советы дэпутатаў працоўных утвараюць наступныя аддзелы выканаўчых камітэтаў:

Фінансавы;
Комунальнай гаспадаркі;
Унутранага гандлю;
Аховы здароўя;
Народнай асветы;
Соцыяльнага забяспечання;
Агульны;
Планавую камісію;

Сектар кадраў пры старшыні выканаўчага камітэта і, апрача таго, у адпаведнасці з асаблівасцямі прамысловасці горада, яго гарадской і прыгараднай гаспадаркі:

Мясцовай прамысловасці;
Зямельны.

**Артыкул 73.** Аддзелы гарадскіх Советаў дэпутатаў працоўных падпарадкуюцца ў сваёй дзейнасці як гарадскому Совету дэпутатаў працоўных і яго выканаўчаму камітэту, так і адпаведнаму акруговаму, раённаму аддзелу Совета дэпутатаў працоўных або непасрэдна адпаведнаму Народнаму Камісарыяту БССР.

**Артыкул 74.** Аддзелы гарадскіх Советаў дэпутатаў працоўных Менска, Віцебска, Гомеля і Магілева падпарадкуюцца ў сваёй дзейнасці як Советам дэпутатаў працоўных Менска, Віцебска, Гомеля і Магілева і іх выканаўчым камітэтам, так і адпаведнаму Народнаму Камісарыяту БССР непасрэдна.

**Артыкул 75.** Па сканчэнні паўнамоцтваў акруговых, раённых, гарадскіх, местачковых, сельскіх і пасялковых Советаў дэпутатаў працоўных іх выканаўчыя і распарадчыя органы захоўваюць свае паўнамоцтвы аж да ўтварэння новаабранымі Советамі дэпутатаў працоўных новых выканаўчых і распарадчых органаў.

*Раздзел VI*

## БЮДЖЭТ БЕЛАРУСКАЙ СОВЕЦКАЙ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ

**Артыкул 76.** Дзяржаўны бюджэт БССР складаецца Советам Народных Камісараў БССР і уносіцца ім на зацверджанне Вярхоўнага Совета БССР.

Зацверджаны Вярхоўным Советам БССР дзяржаўны бюджэт БССР публікуецца да ўсеагульнага ведама.

**Артыкул 77.** Вярхоўны Совет БССР абірае Бюджэтную Камісію, якая дакладвае Вярхоўнаму Совету сваё заключэнне па дзяржаўнаму бюджэту БССР.

**Артыкул 78.** Справаздача аб выкананні дзяржаўнага бюджэта БССР зацвярджаецца Вярхоўным Советам БССР і публікуецца да ўсеагульнага ведама.

**Артыкул 79.** У бюджэты акруговых, раённых, гарадскіх і сельскіх Советаў уключаюцца прыбыткі ад мясцовай гаспадаркі, адлічэнні ад дзяржаўных прыбыткаў, якія паступаюць на іх тэрыторыі, а таксама паступленні ад мясцовых падаткаў і збораў у размерах, якія ўстанаўляюцца законадаўствам СССР і БССР.

*Раздзел VII*

## СУД І ПРАКУРАТУРА

**Артыкул 80.** Правасуддзе ў БССР ажыццяўляецца Вярхоўным Судом БССР, акруговымі судамі і народнымі судамі, а таксама спецыяльнымі судамі Саюза ССР, якія ствараюцца па пастанове Вярхоўнага Совета СССР.

**Артыкул 81.** Разгляд спраў ва ўсіх судах ажыццяўляецца з удзелам народных засядацеляў, апрача выпадкаў, спецыяльна прадугледжаных законам.

**Артыкул 82.** Вярхоўны Суд БССР з'яўляецца вышэйшым судовым органам БССР.

На Вярхоўны Суд БССР ускладаецца нагляд за судовай дзейнасцю ўсіх судовых органаў БССР.

**Артыкул 83.** Вярхоўны Суд БССР абіраецца Вярхоўным Советам БССР тэрмінам на пяць гадоў.

**Артыкул 84.** Акруговыя суды абіраюцца акруговымі Советамі дэпутатаў працоўных тэрмінам на пяць гадоў.

**Артыкул 85.** Народныя суды абіраюцца грамадзянамі раёна на аснове ўсеагульнага, прамога і роўнага выбарчага права пры тайным галасаванні тэрмінам на тры гады.

**Артыкул 86.** Судавядзенне ў БССР вядзецца на беларускай мове з забяспечаннем для асоб, якія не ўладаюць гэтай мовай, поўнага

азнаямлення з матэрыяламі справы праз перакладчыка, а таксама права выступаць на судзе на роднай мове.

**Артыкул 87.** Разгляд спраў ва ўсіх судах БССР адкрыты, паколькі законам не прадугледжаны выключэнні, з забяспечаннем абвінавачваемаму права на абарону.

**Артыкул 88.** Суддзі незалежны і падпарадкуюцца толькі закону.

**Артыкул 89.** Вышэйшы нагляд за дакладным выкананнем законаў усімі Народнымі Камісарыятамі і падпарадкаванымі ім установамі, роўным чынам, як асобнымі службовымі асобамі, а таксама грамадзянамі на тэрыторыі БССР ажыццяўляецца як Пракурорам СССР непасрэдна, так і праз Пракурора БССР.

**Артыкул 90.** Пракурор БССР прызначаецца Пракурорам СССР тэрмінам на пяць гадоў.

**Артыкул 91.** Акруговыя, раённыя і гарадскія пракуроры прызначаюцца Пракурорам БССР з зацверджаннем Пракурора СССР тэрмінам на пяць гадоу.

**Артыкул 92.** Органы пракуратуры ажыццяўляюць свае функцыі незалежна ад якіх-бы там ні было мясцовых органаў, падпарадкуючыся толькі Пракурору СССР.

*Раздзел VIII*

## АСНОЎНЫЯ ПРАВЫ І АБАВЯЗКІ ГРАМАДЗЯН

**Артыкул 93.** Грамадзяне БССР маюць права на працу, гэта значыць права на атрыманне гарантаванай работы з аплатай іх працы ў адпаведнасці з яе колькасцю і якасцю.

Права на працу забяспечваецца соцыялістычнай арганізацыяй народнай гаспадаркі, няўхільным ростам вытворчых сіл совецкага грамадства, устараненнем магчымасці гаспадарчых крызісаў і ліквідацыяй беспрацоўя.

**Артыкул 94.** Грамадзяне БССР маюць права на адпачынак.

Права на адпачынак забяспечваецца скарачэннем рабочага дня для пераважнай большасці рабочых да сямі гадзін, устанаўленнем штогадовых водпускаў рабочым і служачым з захаваннем заработнай платы, прадастаўленнем для абслугоўвання працоўных шырокай сеткі санаторыяў, дамоў адпачынку, клубаў.

**Артыкул 95.** Грамадзяне БССР маюць права на матэрыяльнае забяспечанне ў старасці, а таксама ў выпадку хваробы і страты працаздольнасці.

Гэтае права забяспечваецца шырокім развіццём соцыяльнага страхавання рабочых і служачых за кошт дзяржавы, бясплатнай медычнай дапамогай працоўным, прадастаўленнем у карыстанне працоўных шырокай сеткі курортаў.

**Артыкул 96.** Грамадзяне БССР маюць права на асвету.

Гэтае права забяспечваецца ўсеагульна-абавязковай пачатковай асветай, бясплатнасцю асветы, уключаючы вышэйшую асвету, сістэмай дзяржаўных стыпендый пераважнай большасці навучаючыхся ў вышэйшай школе, навучаннем у школах на роднай мове, арганізацыяй на заводах, у соўгасах, машынатрактарных станцыях і калгасах бясплатнага вытворчага, тэхнічнага і агранамічнага навучання працоўных.

**Артыкул 97.** Жанчыне ў БССР прадастаўляюцца роўныя правы з мужчынам ва ўсіх галінах гаспадарчага, дзяржаўнага, культурнага і грамадска-палітычнага жыцця.

Магчымасць ажыццяўлення гэтых правоў жанчын забяспечваецца прадастаўленнем жанчыне роўнага з мужчынам права на працу, аплату працы, адпачынак, сацыяльнае страхаванне і асвету, дзяржаўнай аховай інтарэсаў маці і дзіцяці, прадастаўленнем жанчыне пры цяжарнасці водпускаў з захаваннем утрымання, шырокай сеткі радзільных дамоў, дзіцячых ясляў і садоў.

**Артыкул 98.** Роўнапраўе грамадзян БССР, незалежна ад іх нацыянальнасці і расы, ва ўсіх галінах гаспадарчага, дзяржаўнага, культурнага і грамадска-палітычнага жыцця з'яўляецца непарушным законам.

Якое-б там ні было прамое або ўскоснае абмежаванне правоў або, наадварот, устанаўленне прамых або ўскосных пераваг грамадзян у залежнасці ад іх расавай і нацыянальнай прыналежнасці, таксама як усякая прапаведзь расавай або нацыянальнай выключнасці, або нянавісці і пагарды—караюцца законам.

**Артыкул 99.** У мэтах забяспечання за грамадзянамі свабоды сумлення царква ў БССР аддзелена ад дзяржавы і школа ад царквы. Свабода правіць рэлігійныя культы і свабода антырэлігійнай прапаганды прызнаецца за ўсімі грамадзянамі.

**Артыкул 100.** У адпаведнасці з інтарэсамі працоўных і ў мэтах умацавання соцыялістычнага ладу грамадзянам БССР гарантуецца законам:

а) свабода слова;
б) свабода друку;
в) свабода сходаў і мітынгаў;
г) свабода вулічных шэствій і дэманстрацый.

Гэтыя правы грамадзян забяспечваюцца прадастаўленнем працоўным і іх арганізацыям друкарняў, запасаў паперы, грамадскіх будынкаў, вуліц, сродкаў сувязі і іншых матэрыяльных умоў, неабходных для іх ажыццяўлення.

**Артыкул 101.** У адпаведнасці з інтарэсамі працоўных і ў мэтах развіцця арганізацыйнай самадзейнасці і палітычнай актыўнасці народных мас, грамадзянам БССР забяспечваецца права аб'яднання ў грамадскія арганізацыі: прафесіянальныя саюзы, кааператыўныя

аб'яднанні, арганізацыі моладзі, спартыўныя і абаронныя арганізацыі, культурныя, тэхнічныя і навуковыя таварыствы, а найбольш актыўныя і свядомыя грамадзяне з радоў рабочага класа і іншых слаёў працоўных яднаюцца ва Ўсесаюзную Комуністычную партыю (большэвікоў), якая з'яўляецца перадавым атрадам працоўных у іх барацьбе за ўмацаванне і развіцце соцыялістычнага ладу і якая з'яўляецца кіруючым ядром усіх арганізацый працоўных як грамадскіх, так і дзяржаўных.

**Артыкул 102.** Грамадзянам БССР забяспечваецца недатыкальнасць асобы. Ніхто не можа быць арыштаваны інакш як па пастанове суда або з санкцыі Пракурора.

**Артыкул 103.** Недатыкальнасць жылля грамадзян і тайна перапіскі ахоўваюцца законам.

**Артыкул 104.** БССР прадастаўляе права прытулку замежным грамадзянам, якія праследуюцца за абарону інтарэсаў працоўных, або навуковую дзейнасць, або нацыянальна-вызваленчую барацьбу.

**Артыкул 105.** Кожны грамадзянін БССР абавязан выконваць Канстытуцыю Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі, выконваць законы, захоўваць дысцыпліну працы, сумленна адносіцца да грамадскага абавязку, паважаць правілы соцыялістычнага агульнасумеснага жыцця.

**Артыкул 106.** Кожны грамадзянін БССР абавязан берагчы і умацоўваць грамадскую, соцыялістычную ўласнасць, як свяшчэнную і недатыкальную аснову совецкага ладу, як крыніцу багацця і магутнасці радзімы, як крыніцу заможнага і культурнага жыцця ўсіх працоўных.

Асобы, якія пасягаюць на грамадскую, соцыялістычную ўласнасць, з'яўляюцца ворагамі народу.

**Артыкул 107.** Усеагульны вайсковы абавязак з'яўляецца законам. Вайсковая служба ў Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі прадстаўляе пачэсны абавязак грамадзян БССР.

**Артыкул 108.** Абарона бацькаўшчыны ёсць свяшчэнны абавязак кожнага грамадзяніна БССР. Здрада радзіме: парушэнне прысягі, пераход на бок ворага, нанясенне шкоды ваеннай магутнасці дзяржавы, шпіянаж—караюцца па ўсёй строгасці закона, як самае цяжкае злачынства.

## *Раздзел IX*

## ВЫБАРЧАЯ СІСТЭМА

**Артыкул 109.** Выбары дэпутатаў ва ўсе Советы дэпутатаў працоўных: Вярхоўны Совет Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі, акруговыя, раённыя, гарадскія, мястэчковыя, сельскія і пасялковыя Советы дэпутатаў працоўных праводзяцца выбаршчыкамі на аснове ўсеагульнага, роўнага і прамога выбарчага права пры тайным галасаванні.

**Артыкул 110.** Выбары дэпутатаў з'яўляюцца ўсеагульнымі: усе грамадзяне БССР, якія маюць 18 гадоў, незалежна ад расавай і нацыянальнай прыналежнасці, вераіспаведання, асветнага цэнза, аселасці, сацыяльнага паходжання, маемаснага становішча і мінулай дзейнасці, маюць права ўдзельнічаць у выбарах дэпутатаў і быць абранымі, за выключэннем страціўшых розум і асоб, асуджаных судом з пазбаўленнем выбарчых правоў.

**Артыкул 111.** Выбары дэпутатаў з'яўляюцца роўнымі. кожны грамадзянін мае адзін голас; усе грамадзяне ўдзельнічаюць у выбарах на роўных падставах.

**Артыкул 112.** Жанчыны карыстаюцца правам абіраць і быць абранымі роўна з мужчынамі.

**Артыкул 113.** Грамадзяне, якія знаходзяцца ў радах Чырвонай Арміі, карыстаюцца правам абіраць і быць абранымі роўна з усімі грамадзянамі.

**Артыкул 114.** Выбары дэпутатаў з'яўляюцца прамымі: выбары ва ўсе Советы дэпутатаў працоўных, пачынаючы ад сельскага і гарадскога Совета дэпутатаў працоўных аж да Вярхоўнага Совета БССР, праводзяцца грамадзянамі непасрэдна шляхам прамых выбараў.

**Артыкул 115.** Галасаванне пры выбарах дэпутатаў з'яўляецца тайным.

**Артыкул 116.** Кандыдаты пры выбарах выстаўляюцца па выбарчых акругах.

Права выстаўлення кандыдатаў забяспечваецца за грамадскімі арганізацыямі і таварыствамі працоўных: комуністычнымі партыйнымі арганізацыямі, прафесіянальнымі саюзамі, кааператывамі, арганізацыямі моладзі, культурнымі таварыствамі.

**Артыкул 117.** Кожны дэпутат абавязан рабіць справаздачу перад выбаршчыкамі аб сваёй рабоце і аб рабоце Совета дэпутатаў працоўных і можа быць у любы час адкліканы па рашэнню большасці выбаршчыкаў ва ўстаноўленым законам парадку.

**Артыкул 118.** Выбары ў Советы дэпутатаў працоўных БССР праводзяцца па выбарчых акругах па наступных нормах:

а) у акруговы Совет дэпутатаў працоўных—адзін дэпутат не менш як ад 2.000 і не больш як ад 3.000 чалавек насельніцтва;

б) у раённы Совет дэпутатаў працоўных—адзін дэпутат не менш як ад 500 і не больш як ад 1000 чалавек насельніцтва;

в) у гарадскі Совет дэпутатаў працоўных—адзін дэпутат не менш як ад 150 і не больш як ад 300 чалавек насельніцтва;

г) у сельскі і местачковы Советы дэпутатаў працоўных—адзін дэпутат не менш як да 100 і не больш як да 250 чалавек насельніцтва.

Выбарчыя нормы для асобных Советаў дэпутатаў працоўных у межах выбарчых норм, указаных у гэтым артыкуле, вызначаюцца выбарчым законам БССР.

*Раздзел X*

## ГЕРБ, СЦЯГ, СТАЛІЦА

**Артыкул 119.** Дзяржаўны герб Беларускай Совецкай Социялістычнай Рэспублікі складаецца з выяўлення ў праменнях усходзячага сонца сярпа і молата, абкружаных вянком; гэты вянок складаецца злева з жытних каласоў, перапл.ецены х канюшынай, а справа—з дубовай галінкі; унізе паміж абодвума палавінамі вянка знаходзіцца частка зямной кулі. Абедзве палавіны вянка перавіты чырвонай стужкай, на якой змешчаны надпісы на беларускай, рускай, яўрэйскай і польскай мовах: «Пралетарыі ўсіх краін, злучайцеся!», і ніжэй—ініцыялы БССР. Уверсе герба знаходзіцца пяціканцовая зорка.

**Артыкул 120.** Дзяржаўны сцяг Беларускай Совецкай Социялістычнай Рэспублікі складаецца з чырвонага палотнішча з выяўленнем на яго верхнім кутку каля дрэўка залатых сярпа і молата і над імі—чырвонай пяціканцовай зоркі, абкружанай залатой каймой, а ўнізе сярпа і молата залатыя літары —БССР. Адносіны шырыні да даўжыні 1:2.

**Артыкул 121.** Сталіцай Беларускай Совецкай Социялістычнай Рэспублікі з'яўляецца горад Менск.

*Раздзел XI*

## ПАРАДАК ЗМЕНЫ КАНСТЫТУЦЫІ

**Артыкул 122.** Змена Канстытуцыі Беларускай Совецкай Социялістычнай Рэспублікі робіцца толькі па рашэнню Вярхоўнага Совета БССР, прынятаму большасцю не менш 2/3 галасоў Вярхоўнага Совета.

## ПРЭЗІДЫУМ НАДЗВЫЧАЙНАГА XII УСЕБЕЛАРУСКАГА З'ЕЗДА СОВЕТАЎ:

1. Аўгустайціс
2. Александровіч
3. Бенэк
4. Булін
5. Балцін
6. Бейнэ
7. Валковіч
8. Галадзед
9. Гарачоў
10. Готфрыд
11. Досін
12. Дубіна
13. Дзякаў
14. Емельянаў
15. Жолудаў
16. Жуковіч
17. Жураўлёў
18. Картукоў
19. Каруцкі
20. Кудзелька
21. Любовіч
22. Леўкоў
23. Малашонак
24. Пушчын
25. Патапенка
26. Рачок
27. Рубінштэйн
28. Рыськін
29. Свірыдаў
30. Сердзіч
31. Скабло
32. Стакун
33. Сурта
34. Сухаручкін
35. Убарэвіч
36. Хадасевіч
37. Ціхон
38. Чэрвякоў
39. Шусцін

19 лютага 1937 г.
Менск, Дом Урада

# Канстытуцыя ордэнаноснай БССР

Надзвычайны XII Усебеларускі З'езд Советаў прыняў Канстытуцыю **(Асноўны Закон) БССР, цалкам і поўнасцю аснаваную на Ста**лінскай Канстытуцыі СССР. XII З'езд займе адну з бліскучых старонак у гісторыі беларускага народу, бо гэты з'езд прыняў і зацвердзіў **Канстытуцыю перамогі соцыялізма ў БССР.**

Беларускі народ, які ў часы царызма знаходзіўся пад палітычным, соцыяльна-эканамічным і нацыянальным уціскам, пасля перамогі Вялікай пролетарскай рэволюцыі ўпершыню ў гісторыі атрымаў сваю дзяржаўнасць. Рабочыя і сяляне Беларусі пры дапамозе вялікага рускага пролетарыята адстаялі сваю дзяржаўнасць у гераічных боях з белапольскімі інтэрвентамі на франтах грамадзянскай вайны, у жорсткай барацьбе супроць буржуазных нацыяналістаў, нацыянал-дэмакратаў, супроць злейшых ворагаў народу, агентаў фашызма- трацкістаў **і іх прыспешнікаў—правых адшчапенцаў.**

Разам з рускім народам і пры яго дапамозе беларускі народ ства**рыў сваю прамысловасць і буйную соцыялістычную сельскую гаспадарку.**

За кароткі тэрмін БССР ператварылася ў квітнеючую ардэнаносную рэспубліку, у краіну суцэльнай граматнасці і высокай культуры, **нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зместу.**

У БССР, як і ва ўсім Совецкім Саюзе, знішчана эксплоатацыя чалавека чалавекам. Справа соцыялізма перамагла канчаткова і беспаваротна.

> **«Наша совецкае грамадства,—гаварыў таварыш Сталін на** VIII З'ездзе Советаў,—дабілася таго, што яно ўжо ажыццявіла **ў асноўным соцыялізм, стварыла соцыялістычны лад, г. зн.** ажыццявіла тое, што у марксістаў называецца іначай першай ці **ніжэйшай фазай комунізма. Значыць, у нас ужо ажыццёўлена ў** асноўным **першая фаза комунізма, соцыялізм».**

**У гэтых простых словах правадыра выражаны гістарычнага зна**чэння перамогі, заваяваныя народамі вялікага Совецкага Саюза і канчаткова замацаваныя Асноўным Законам дзяржавы рабочых і сялян **Канстытуцыяй СССР.**

Беларуская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка дабілася сваіх велізарных перамог перш за ўсё ў выніку мудрай палітыкі генія нашай эпохі правадыра і настаўніка народаў таварыша Сталіна, у выніку ажыццяўлення ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі. **Увесь беларускі народ спаткаў сваю новую Канстытуцыю гарачымі словамі любві і падзякі таварышу Сталіну, бо кожны яе радок прасякнут сталінскімі клопатамі аб жывым чалавеку, аб росквіце культуры і добрабыту працоўных.**

Аб велізарных зрухах у нашай рэспубліцы ярка сведчыць і самы склад дэлегатаў Надзвычайнага XII Усебеларускага З'езда Советаў.

З агульнай колькасці дэлегатаў-рабочых 86,7 проц. складаюць стаханаўцы. Гэта—армія сапраўдных майстроў соцыялістычнай працы, выхаванцаў вялікага Сталіна. Сярод дэлегатаў-рабочых 21,4 проц. маюць вышэйшую ўзнагароду—ордэны СССР. Усе 166 дэлегатаў-сялян—калгаснікі, прадстаўнікі зусім новых прафесій у нашай сельскай гаспадарцы, створаных у выніку перамогі соцыялістычных форм працы (камбайнеры, трактарысты, ільнаводы, брыгадзіры, звеннявыя, даяркі, свінаркі, цялятніцы і т. д.). Характэрна, што яшчэ ў 1927 годзе на VIII Усебеларускім З'ездзе Советаў усе 115 дэлегатаў-сялян былі аднаасобнікамі. У анкеце кожнага з іх у графе «прафесія» значылася толькі адно слова—«хлебароб».

На XII Усебеларускім З'ездзе Советаў былі 223 жанчыны-дэлегаткі (у тры разы больш чым на VIII З'ездзе), якія прадстаўлялі амаль усе прафесіі прамысловасці, транспарту, сельскай гаспадаркі, разумовай працы (урачы, трактарысткі, аграномы, інжынеры, артысткі, навуковыя работнікі, настаўніцы, вопытныя кіраўнікі совецкіх устаноў і калгасаў). На гэтым прыкладзе ясна відаць адносіны совецкага ладу да жанчыны. У нас жанчына побач з мужчынай прымае актыўны ўдзел у кіраўніцтве дзяржавай, з'яўляецца поўнапраўным гаспадаром краіны.

Вялікая Сталінская Канстытуцыя гаворыць усяму свету аб нябачаных заваёваннях працоўных СССР, аб стварэнні яшчэ больш гібкай формы дыктатуры рабочага класа, аб пашырэнні соцыялістычнай дэмакратыі.

У поўнай адпаведнасці з саюзнай Канстытуцыяй пабудавана і новая Канстытуцыя БССР. Раздзелы III і IV Канстытуцыі БССР дэталёва вызначаюць пабудову і поўнамоцтвы вышэйшых органаў дзяржаўнай улады і органаў дзяржаўнага кіраўніцтва Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі.

Асабліва дэталёва вызначаны ў раздзеле V функцыі і правы мясцовых органаў дзяржаўнай улады Советаў дэпутатаў працоўных (акругі, горада, раёна, сяла, мястэчка, пасёлка). Так, напрыклад, устанаўляецца, што сесіі акруговых і раённых Советаў дэпутатаў працоўных склікаюцца выканаўчымі камітэтамі не радзей 6 раз у год, а сесіі гарадскіх і сельскіх Советаў дэпутатаў працоўных не радзей 1 раза ў месяц. Такім чынам устанаўліваецца рэгулярная справаздачнасць выканаўчых органаў перад Советамі дэпутатаў працоўных, што ў поўнай меры гарантуе няўхільнае правядзенне прынцыпаў соцыялістычнага дэмакратызма.

Раздзел VI устанаўлівае парадак складання і зацвярджання бюджэту Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі. Артыкул 79, спецыяльна прысвечаны бюджэту акруговых, раённых, гарадскіх і сельскіх советаў, вызначае таксама і крыніцы прыбытковай часткі мясцовага бюджэту.

Раздзел VII карэнным чынам рэарганізуе работу суда. Народны суд, згодна новай Канстытуцыі, абіраецца грамадзянамі на аснове ўсеагульнага, прамога і роўнага выбарчага права пры тайным галасаванні. Суд становіцца сапраўды дэмакратычнай установай. Нязмерна павышаецца прэстыж народнага суда, які цяснейшым чынам звязваецца з масамі, узмацняючы сваё выхаваўчае значэнне.

У раздзеле аб выбарчэй сістэме Канстытуцыя БССР рэгламентуе

нормы прадстаўніцтва пры выбарах у акруговыя, раённыя, гарадскія і сельскія Советы дэпутатаў працоўных. Напрыклад, у акруговы Совет дэпутатаў працоўных, згодна артыкула 118, абіраюцца па норме адзін дэпутат не менш як ад 2000 і не больш як ад 3000 чалавек насельніцтва, у раённы Совет—адзін дэпутат не менш як ад 500 і не больш як ад 1000 чалавек насельніцтва. У гарадскі Совет адзін дэпутат ад 150 і не больш як ад 300 чалавек насельніцтва. У сельскія Советы адзін дэпутат ад 100 і не больш як ад 250 чалавек насельніцтва. У Канстытуцыі прадугледжваецца, што нормы прадстаўніцтва у мясцовыя Советы ў кожным паасобным выпадку будуць вызначацца спецыяльным выбарчым законам БССР.

* * *

Сталінская Канстытуцыя знамянуе сабой новы этап у развіцці совецкай дэмакратыі. Яна уводзіць для усіх грамадзян нашай краіны усеагульнае выбарчае права без усякіх абмежаванняў, права на працу, на асвету, на адпачынак, на забяспечанне старасці.

Сталінская Канстытуцыя дае яркія узоры паслядоўнага, да канца вытрыманага соцыялістычнага дэмакратызма па любому пытанню жыцця нашага грамадства. Фальшывая-ж буржуазная дэмакратыя абмяжоўваецца фармальнай фіксацыяй урэзаных правоў і свабод грамадзян. На самай-жа справе свабодай і ўсімі правамі карыстаецца толькі клас эксплаататараў.

Патрабаванне наяўнасці маемаснага цэнзу, працяглага пражывання ў адной мясцовасці, пазбаўленне выбарчых правоў жанчын, ваеннаслужачых, нацыянальнае і расавае прыгнечанне—усе гэта ўтончаныя формы ўрэзвання правоў, прыніжэння і прыгнечання працоўных у буржуазных краінах.

Каб захаваць сваю дыктатуру, эксплаататарскія класы становяцца непрымірымымі ворагамі нават куцай буржуазнай дэмакратыі, яны вымушаны хапацца за адкрыта фашысцкія тэрарыстычныя метады кіравання. У гэтых адносінах германскія фашысты заслужылі герастратаву славу.

Вядомая расавая «тэорыя» германскіх фашыстаў, узведзеная Гітлерам у дзяржаўны закон, адкрыта ставіць «арыйца» у прывілеяванае становішча, а «не-арыйца»—у становішча фактычна бяспраўнага чалавека.

Не-арыйцам забаронена займаць розныя дзяржаўныя і грамадскія пасады. Для іх устаноўлена асобая працэнтная норма пры паступленні ў навучальныя установы. Забаронены шлюбы паміж асобамі «германскай» і «яўрэйскай» крыві, і т. д. і т. п.

Германскія фашысты цынічна сцвярджаюць, што расавая тэорыя дабіваецца паляпшання «чалавечай пароды і выкаранення няпоўнацэнных». У зверскім шавінізме гітлераўцы шукаюць выхаду з пагрозы ўсё ўзрастаючага рэволюцыйнага руху рабочых.

На фоне вясёлага і радаснага жыцця народу Совецкай Беларусі асабліва рэльефна выдзяляецца нязносны нацыянальны ўціск над беларусамі, украінцамі і яўрэямі ў фашысцкай Польшчы. Даволі сказаць, што ў гэтай турме народаў ліквідаваны школы для нацменшасцей. Паводле прызнання самога міністэрства асветы, у Польшчы не наведвае школу адзін мільён дзяцей школьнага ўзросту. Грамат-

насць у вёсцы безупынна падае. З года ў год зніжаюцца выдаткі на асвету. Расце жабрацтва працоўных мас Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны.

Сталінская Канстытуцыя СССР і новая Канстытуцыя БССР з выключнаю сілай паказвае працоўным Заходняй Беларусі і ўсяго свету, што толькі партыя большэвікоў і дыктатура рабочага класа ў форме совецкай улады можа забяспечыць сапраўдную свабоду і роўнаправе для працоўных усіх нацыянальнасцей.

Сталінская Канстытуцыя мае велізарнейшае міжнароднае значэнне, як праграма барацьбы рэволюцыйнага пролетарыята і прыгнечаных народаў усяго свету супроць капіталізма, супроць азвярэлага фашызма за канчатковую перамогу социялізма і комунізма ва ўсім свеце.

* *

Партыйныя і совецкія арганізацыі абавязаны карэнным чынам перабудаваць сваю работу ў адпаведнасці з новай Канстытуцыяй. Совецкія ўстановы, куды зварачаецца вялікая колькасць людзей, павінны працаваць зараз нязмерна лепш, чым да гэтага часу. Іх абавязак — не дапускаць парушэння гарантаваных Канстытуцыяй праваў, у найкарацейшы тэрмін вырашаць кожнае законнае патрабаванне грамадзян. Бюракратызму ў совецкім апараце павінна быць абвешчана бязлітасная барацьба.

Шырокія масы працоўных нашай краіны прымаюць актыўны ўдзел у кіраўніцтве дзяржавай. Гарадскія і сельскія Советы, раённыя выканаўчыя камітэты, як адзін з важнейшых прывадных рамнёў сувязі партыі з працоўнымі масамі, усё вышэй узнімаюць якасць сваёй работы, усё цясней зближаюцца з масамі, становяцца праваднікамі сапраўднай социялістычнай дэмакратыі.

На жаль, ёсць у нас яшчэ і такія партыйныя і совецкія арганізацыі, якія не зразумелі сваіх абавязкаў, што выцякаюць з новай Сталінскай Канстытуцыі. Яркім таму прыкладам служыць справа Лепельскага райкома партыі. Былы сакратар райкома партыі Пацэнгель і старшыня райвыканкома Семашко сталі на шлях грубага адміністравання, парушэння рэволюцыйнай законнасці, зацiску самакрытыкі, грубейшага скажэння совецкай дэмакратыі. Секцыі і дэпутацкія групы не працавалі. Раённае кіраўніцтва зусім адарвалася ад мас, згубіла палітычнае пачуццё і большэвіцкую пільнасць, што знаходзіцца ў непрымірымай супярэчнасці з прынцыпамі і духам Сталінскай Канстытуцыі.

Каб палепшыць работу Советаў, неабходна правільна расставіць людзей і наладзіць работу партыйных груп у Советах. Партарганізацыі павінны дабіцца ад дэпутатаў-комуністаў, каб яны чотка выконвалі параграф 55 статута партыі. Партыйная група абавязана узмацніць свой уплыў у беспартыйным асяроддзі, сачыць за няўхільным ажыццяўленнем палітыкі партыі, мацаваць жалезную партыйную і совецкую дысцыпліну, змагацца з бюракратызмам, праверяць выкананне партыйных і совецкіх дырэктыў.

* *

Абмеркаванне і зацверджанне праекта Сталінскай Канстытуцыі СССР і БССР выклікала новую хвалю працоўнага энтузіязму ва ўсіх кутках Совецкай Беларусі. У сваім творчым уздыме увесь беларускі

народ выражаў глыбокую падзяку, любоў і адданасць вялікай партыі Леніна—Сталіна, адзінай у свеце сапраўды народнай партыі, пад кіраўніцтвам якой заваяваны і запісаны ў Канстытуцыі соцыялізма шырокія правы грамадзян.

Нельга забываць, што рэшткі разгромленых ворагаў могуць паспрабаваць выкарыстаць гэтыя правы народу ў сваіх подлых інтарэсах. Працэс над контррэволюцыйнай бандай трацкістаў-зіноўеўцаў наглядна паказаў, што вораг не спыняецца ні перад якімі гнуснасцямі, абы толькі перашкодзіць пераможнаму ходу соцыялізма. Таму моцная наладжанасць работы ўсіх звенняў нашага апарата, рэволюцыйная бальшавіцкая пільнасць, бязлітасная барацьба з рэшткамі класавага ворага з'яўляецца важнейшай умовай далейшага развіцця нашай вялікай радзімы.

Сталінская Канстытуцыя падвяла вынік гістарычнаму этапу барацьбы за соцыялізм. Пад выпрабаваным кіраўніцтвам ВКП(б) і вялікага Сталіна працоўныя масы Совецкага Саюза пойдуць па шляху далейшага умацавання бяскласавага соцыялістычнага грамадства, да канчатковай перамогі комунізма.

# Трацкісцкая банда рэстаўратараў капіталізма

Працэс над так званым «паралельным цэнтрам» яшчэ раз паказаў, да якой гнуснай подласці і нізасці дакаціліся здраднікі радзімы тэрарысты, дыверсанты, шпіёны, агенты фашыстаў Геса і Троцкага.

Галоўная задача, якую паставілі перад сабою трацкісты, заключалася ў гвалтоўным звяржэнні совецкага ўрада і знішчэнні існуючага ў СССР эканамічнага і дзяржаўнага ладу для аднаўлення капіталізма.

Рэстаўрацыя капіталізма вось галоўнае ў палітычнай праграме контррэволюцыйных трацкістаў. Крывавы фашысцкі сабака Троцкі па гэтаму пытанню пісаў Радэку. «Трэба зразумець, што без пэўнага прыраўнання соцыяльнай структуры СССР да капіталістычных дзяржаў урад блока ўтрымацца ва ўладзе і захаваць мір не зможа... Дапушчэнне германскага і японскага капітала да эксплаатацыі СССР стварае буйныя капіталістычныя інтарэсы на совецкай тэрыторыі. Да іх пацягнуцца ў весцы тыя слаі, якія не зжылі капіталістычнай псіхалогіі і не задаволены калгасамі. Немцы і японцы патрабуюць ад нас разраджэння атмасферы ў весцы, таму трэба будзе ісці на ўступкі і дапусціць роспуск калгасаў ці выхад з калгасаў».

Фашыст Троцкі таксама цвердзіў і Пятакову, калі той спецыяльна ездзіў да Троцкага з Берліна ў Осло на аэраплане, паслужліва прадастаўленым германскімі фашыстамі: «Гэта значыць, трэба будзе адступаць. Гэта трэба цвёрда зразумець. Адступаць да капіталізма».

У гэтым заключалася галоўная мэта палітычнай праграмы трацкістаў. Іменна дзеля ажыццяўлення сваей подлай палітычнай праграмы рэстаўрацыі капіталізма трацкісты змагаліся супроць совецкай улады, супроць соцыялізма, прычым самымі гнуснымі метадамі.

Брудныя адкіды контррэволюцыі, трацкісцкія падонкі хацелі шляхам рэстаўрацыі капіталізма пахаваць соцыялізм і заваяванае рабочым класам светлае, шчаслівае, заможнае жыццё. Яны хацелі знішчыць соцыялістычную сістэму гаспадаркі, соцыялістычную прамысловасць, ліквідаваць калгасы і соўгасы. Яны хацелі аднавіць панаванне буржуазіі, звярнуць на нашы прадпрыемствы фабрыкантаў і заводчыкаў, а ў нашы вёскі памешчыкаў і кулакоў.

Трацкісцка-зіноўеўскія рэстаўратары капіталізма хацелі аднавіць у СССР капіталістычную эксплаатацыю і рабства.

У той час, калі мы дасягнулі велізарнага развіцця соцыялістычнай дэмакратыі, калі ўся краіна з агромным энтузіязмам і захапленнем абмяркоўвала праект Сталінскай Канстытуцыі, трацкісты рыхтавалі ліквідацыю дэмакратыі ў нашай краіне. Троцкі пісаў Радэку: «Ні аб якой дэмакратыі гутаркі быць не можа. Рабочы клас пражыў васемнаццаць год рэволюцыі, і ў яго апетыт агромны, а гэтага рабочага трэба будзе звярнуць часткова на прыватныя фабрыкі, часткова на дзяржаўныя фабрыкі, якія будуць знаходзіцца ў стане цяжкай канкурэнцыі з замежным капіталам. Значыць будзе крутое па-

горшание становішча рабочага класа. У вёсцы аднавіцца барацьба беднаты і серадняка супроць кулацтва. І тады, каб утрымацца, патрэбна моцная ўлада незалежна ад таго, якімі формамі гэта будзе прыкрыта. Калі хочаце аналогій гістарычных, то вазьміце аналогію з уладай Напалеона I і прадумайце гэту аналогію».

Беларускі народ дасканала памятае тое мінулае, да якога хацелі звярнуць нас трацкісцка-зіноўеўскія рэстаўратары. Пасля Октябрскай рэвалюцыі Беларусь упершыню ў гісторыі атрымала сваю дзяржаўнасць. Упершыню ў гісторыі стала яна свабоднай краінай. Упершыню, як і ўсе народы вялікага Совецкага Саюза пад кіраўніцтвам партыі і любімага Сталіна, дасягнула яна шчаслівага, радаснага жыцця.

Усе гіганцкія перамогі беларускага народу звязаны з пролетарскай рэволюцыяй, з дыктатурай рабочага класа, з іменамі геніяльнейшых правадыроў сусветнага пролетарыята Леніна і Сталіна.

Трацкісцкая банда спрабавала любой цаною, любымі сродкамі здзейсніць сваю праграму. Для гэтага яна заключыла саюз з фашыстамі злейшымі ворагамі працоўных усяго свету і згадзілася аддаць ім у кабалу нашу свабодную краіну. Дзеля гэтай мэты Троцкі і яго спадручныя сталі вернымі слугамі фашызма.

Атаман шайкі Троцкі пісаў Радэку: «Было-б недарэчнасцю думаць, што можна прыйсці да ўлады, не заручыўшыся спрыяючымі адносінамі важнейшых капіталістычных урадаў, асабліва такіх, найбольш агрэсіўных, як сучасны ўрад Германіі і Японіі. Зусім неабходна ўжо зараз мець з гэтымі ўрадамі кантакт і дагаворанасць».

Для ўстанаўлення з фашысцкімі ўрадамі «кантакту і дагаворанасці» падлейшы з подлых Троцкі уступіў у перагаворы з намеснікам Гітлера—Гесам, адным з кіраўнікоў германскай фашысцкай партыі. Пагадненне заключана было ў наступным:

«1. гарантаваць агульныя спрыяючыя адносіны германскаму ўраду і неабходнае супрацоўніцтва з ім у важнейшых пытаннях міжнароднага характару;

2. згадзіцца на тэрытарыяльныя ўступкі;

3. дапусціць германскіх прадпрыемцаў у форме канцэсій (ці якіх-небудзь іншых формах), да эксплаатацыі такіх прадпрыемстваў у СССР, якія з'яўляюцца неабходным эканамічным дадаткам да гаспадаркі Германіі (гутарка ішла пра жалезную руду, марганец, нафту, золата, лес і т. п.—*Рэд.)*;

4. стварыць у СССР умовы, спрыяючыя для дзейнасці германскіх прыватных прадпрыемстваў;

5. разгарнуць у час вайны актыўную дыверсійную работу на ваенных прадпрыемствах і на фронце. Прычым гэта дыверсійная работа павінна праводзіцца па ўказаннях Троцкага, узгодненых з германскім генштабам».

Гэта пагадненне даказвае, што трацкісты мелі на мэце рэстаўраваць капіталізм у нашай краіне пры дапамозе фашысцкіх штыкоў. За гэту дапамогу яны гатовы былі шчодра заплаціць і германскім і японскім фашыстам.

Як паказаў на судзе Радэк, Троцкі абяцаў уступіць Японіі Прымор'е і Прыамур'е, а Германіі Украіну. І мала таго—дапусціць германскіх капіталістаў да эксплаатацыі руды, марганца, золата, нафты, апацітаў, прадастаўляць германскім фашыстам харчы і тлушчы па цэнах, ніжэй сусветных. Японіі трацкісты запрадалі не толькі Пры-

мора і Прыамур'е, яны абяцалі японскім фашыстам сахалінскую нафту, а таксама гарантавалі пастаўку нафты з іншых частак краіны на выпадак вайны з Амерыкай. Трацкісты загадзя абяцалі Германіі садзейнічаць у захопе Прыдунайскіх краін і Балкан, а Японіі не рабіць перашкод у захопе Кітая.

З паказанняў падсудных было ясна відаць, што азвярэлыя ворагі рыхтавалі тэрытарыяльнае расчляненне нашай соцыялістычнай радзімы, парашылі разбіць яе на часткі ва ўгоду імперыялістычным намерам драпежнікаў-фашыстаў.

Трацкісцкія вырадкі арганізавалі злачынскую змову не толькі супроць нашай вялікай соцыялістычнай радзімы. Сваю агідную подлую работу яны вядуць супроць усяго чэснага і прагрэсунага чалавецтва, падтрымліваючы самыя цёмныя сілы сусветнай рэакцыі. Ва Францыі яны імкнуцца расстроіць агульны народны фронт у яго барацьбе супроць фашыстаў. У Іспаніі дапамагаюць мяцежнікам і фашысцкім інтэрвентам душыць незалежнасць гераічнага іспанскага народу.

Беларускі народ добра памятае дзесяць месяцаў германскай акупацыі ў 1918 г., калі армія кайзера несла з сабою жах і разарэнне, калі фабрыканты і памешчыкі аднаўлялі капіталістычныя парадкі у іх найбольш жудаснай каланіяльнай форме.

У другі раз беларускі народ, звязаны брацкімі узамі з сям'ёй народаў вялікага Совецкага Саюза, не дапусціць на сваю тэрыторыю германскіх фашыстаў, якія-б пагадненні яны ні заключалі з адкідамі чалавецтва—Троцкім і яго хаўруснікамі.

Трацкісцкія рэстаўратары ўзялі на сябе ролю дыверсантаў і шпіёнаў германскай і японскай разведкі. Яны перадавалі сакрэтныя матар'ялы аб развіцці нашай прамысловасці, выконвалі даручэнні замежных разведак па арганізацыі дыверсійных і тэрарыстычных актаў, стараліся справакаваць вайну, прыспешыць напад капіталістычных дзяржаў на Совецкі Саюз.

Выконваючы дырэктывы Троцкага, група Пятаковых, Серабраковых і ім падобных старалася падарваць гаспадарчую магутнасць нашай дзяржавы, каб выклікаць сярод працоўных азлабленне супроць совецкай улады.

У сваім шаленстве трацкісцкія мярзаўцы ні перад чым не спыняліся: арганізоўвалі выбухі, падпалы, крушэнні, імкнучыся выклікаць як мага больш афяр. Дробніс гаварыў: «Нават лепш, калі будуць афяры на шахце, бо яны бясспрэчна выклічуць азлабленне рабочых. А гэта нам патрэбна». На Горлаўскім азотна-тукавым камбінаце трацкістам удалося правесці тры дыверсійныя акты, у тым ліку два выбухі, якія пацягнулі за сабою чалавечыя афяры і нанеслі дзяржаве цяжкія матар'яльныя страты. Пры выбуху на шахце «Цэнтральнай» загінула дзесяць рабочых, а чатырнаццаць цяжка паранена. Пры крушэнні ваисковага эшалона на станцыі Шуміха, загінула 29 чырвонаармейцаў і 29 цяжка паранена. У 1935—36 гг. на Паўднева-Уральскай чыгунцы было 15 выпадкаў крушэння паяздоў па загаду Князева, які выконваў абавязак агента японскай разведкі. Пры чыгуначных катастрофах было забіта 63 чалавекі і ранена 154.

Але гэтыя кашмарныя акты шкодніцтва з чалавечымі афярамі бляднеюць перад тым, што трацкісты рыхтавалі ўчыніць у час вайны. Пятакоў распарадзіўся к моманту вайны падпаліць Кемераўскі хімкамбінат. Ліфшыц і Князеў, па непасрэднаму ўказанню япон-

скага генеральнага штаба, рыхтавалі заражэнне бактэрыямі вайсковых эшалонаў, пунктаў харчавання і сандапамогі.

Па заданню Гестапо «паралельны цэнтр» арганізаваў рад тэрарыстычных груп у Маскве, Ленінградзе, Кіеве, Харкаве, Сочы і іншых гарадах Совецкага Саюза. Троцкі настойліва патрабаваў скалаціць «вузкі калектыў надзейных людзей для выканання тэрарыстычных замахаў супроць кіраўнікоў ВКП(б), у першую чаргу супроць Сталіна». У гутарцы з Пятаковым у 1935 годзе Троцкі заявіў: «Зразумейце, што без цэлай серыі тэрарыстычных актаў, якую трэба правесці як мага хутчэй, нельга зваліць сталінскі ўрад. Трэба барацьбу яшчэ больш абвастрыць, яшчэ больш расшырыць. Трэба, літаральна, не спыняцца ні перад чым, каб зваліць Сталіна».

Па інструкцыях Троцкага і германскага Гестапо трацкісты арганізавалі забойства палкага народнага трыбуна, беззаветнага барацьбіта за комунізм—Сергея Міронавіча Кірава. Трацкісцкія адшчапенцы падрыхтавалі замах на таварыша Молатава ў час яго паездкі у Кузбас, аб чым на судзе нагла расказваў авантурыст Арнольд. Трацкісцкія вырадкі рыхтавалі замах на правадыра сусветнага пралетарыята—вялікага, роднага Сталіна і яго бліжэйшых саратнікаў.

Увесь мінулы шлях Троцкага і трацкістаў—шлях правакацый і здрадніцтва. Не выпадкова Троцкі служыў і эканамізму, і меншавізму, і ліквідатарству, і каўцкіянству, і соцыялдэмакратызму, і соцыялшавінізму—усім сілам, выступаючым супроць нашай партыі і пралетарыята. Не выпадкова Троцкі служыць зараз злейшаму ворагу чалавечага прагрэса—фашызму.

Трацкізм заўсёды быў і застаецца самым ярым, подлым, гнусным ворагам совецкага народу, усяго перадавога і прагрэсіўнага чалавецтва, усяго, што ёсць чэснае на свеце. Таму зразумелы гнеў і абурэнне, выкліканыя бандыцкімі махінацыямі трацкісцкіх вырадкаў у сэрцах працоўных усяго свету.

Працэс паказаў, што недалека адышліся ад трацкісцкіх мярзаўцаў і так званая група правых. Яна змыкалася з імі у першую чаргу на аснове праграмы рэстаўрацыі капіталізма. Бухарынскія тэорыі аб «арганізаваным капіталізме», аб «урастанні кулака у соцыялізм» вядуць да рэстаўрацыі капіталізма. Гэтыя тэорыі паслужылі мастком, праз які правыя злучыліся з трацкістамі. Злачынная дзейнасць Бухарына, Рыкава, Угланава і іншых так званых правых, выкрытых паказаннямі падсудных на працэсе трацкісцкага «паралельнага цэнтра», павінна быць выяўлена да канца. Яны павінны панесці заслужаную кару. Гэтага патрабуюць працоўныя ў прынятых на сходах шматлікіх рэзалюцыях у сувязі з працэсам над трацкісцка-фашысцкай бандай рэстаўратараў капіталізма.

КП(б)Б пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) правяла вялікую работу па выкрыццю трацкісцкіх гадаў, прабраўшыхся ў КП(б)Б. Вораг выкрыт і раздаўлен. Але гэта не дае ніякага права спачыць на лаўрах, самасупакоіцца.

Трацкісцкія мярзаўцы з вялікай стараннасцю імкнуліся прабрацца ў нашу пагранічную рэспубліку. У мінулым на Беларусі былі буйныя трацкісцкія групы (Югаўска-Рыўлінская група, так званая Мазырская група трацкістаў і т. п.). Гэтыя групы ядналі блізкія па духу кадры выхадцаў з іншых контррэволюцыйных партый. У выніку подлай дзейнасці беларускіх нацыяналістаў, бундаўцаў і розных іншых контррэволюцыйных партый ствараўся ўпаўне падрыхтава-

ныя кадры для трацкісцкіх бандытаў. Вось чаму наша пільнасць павінна быць накіравана супроць усіх і ўсялякіх ворагаў савецкага народу.

Мы не павінны забываць і больш блізкіх фактаў, як, напрыклад, работу у Менску трацкісцкага паследыша Розенблюма, які укрываў тут прамога агента Троцкага Ольберга. Гэтая подлая фашысцкая банда здолела пакінуць сям-там на Беларусі сваю агентуру. Выяўленыя ў апошні час факты пацвярджаюць, што кожны мярзавец з трацкісцкай банды, дзе-б ён ні працаваў, імкнецца пашырыць сваю агентуру. Вось чаму мала выкрыць трацкіста, неабходна выявіць усе яго сувязі, каб даастатку вычысціць смецце, якое мог пакінуць пасля сябе фашысцка-трацкісцкі пасланец. Толькі забыццём гэтага элементарнага правіла можна вытлумачыць той факт, што пасля выкрыцця на Віцебскім чыгуначным вузле групы контррэвалюцыянераў-дыверсантаў (Гуменнікаў, Шпакаў, Антонаў і інш.) усе супакоіліся і далі магчымасць ворагу зноў арудаваць. Справа чыгуначнікаў — дарэшты выкарчаваць усё трацкісцка-шкодніцкае адроддзе, якое арудавала на чыгунках Беларусі.

Разгортванне большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі — лепшая зброя арганізацыі мас на барацьбу супроць усялякіх ворагаў, дзе-б і як-бы яны ні маскаваліся. Забыццё гэтага большэвіцкага правіла прывяло сакратара Лепельскага РК КП(б)Б Пацэвіча к таму, што ён, стаўшы на шлях заціску крытыкі, грубага парушэння статута партыі, страціў рэвалюцыйную пільнасць і даў класаваму ворагу магчымасць пралезці на кіруючую савецкую работу і нават у апарат райкома.

Аб гэтым-жа гавораць і факты, выкрытыя на Магілеўскім аўтарэмзаводзе, дзе арудавала шайка трацкістаў.

Усё гэта гаворыць аб тым, што ніякай самасупакоенасці не павінна быць у нашых радах. Вораг—хітры і каварны. Ён умела маскуецца. Праводзячы сваю гнусную работу, ён у першую чаргу імкнецца аслабіць абарону нашай радзімы.

Ва умовах нашай рэспублікі рэвалюцыйная большэвіцкая пільнасць павінна быць асабліва вялікая. Мы ні на момант не павінны забываць указанняў таварыша Сталіна, зробленых ім у дакладзе «Аб выніках першай пяцігодкі»

> «Трэба мець на увазе, што рост магутнасці савецкай дзяржавы будзе ўзмацняць супраціўленне апошніх рэштак паміраючых класаў. Менавіта таму, што яны паміраюць і дажываюць апошнія дні, яны будуць пераходзіць ад адных форм наскокаў да другіх, больш рэзкіх форм наскокаў, апелюючы да адсталых слаёў насельніцтва і мабілізуючы іх супроць савецкай улады. Няма такой пакасці і паклёпу, якую-б гэтыя былыя людзі не ўзвялі на савецкую ўладу і вакол якіх не спрабавалі-б мабілізаваць адсталыя элементы. На гэтай глебе могуць ажыць і заварушыцца разбітыя групы старых контррэвалюцыйных партый эсэраў, меншавікоў, буржуазных нацыяналістаў цэнтра і акраін, могуць ажыць і заварушыцца аскалкі контррэвалюцыйных апазіцыйных элементаў з трацкістаў і правых ухілістаў. Гэта, вядома, не страшна. Але ўсё гэта трэба мець на увазе, калі мы хочам пакончыць з гэтымі элементамі хутка і без асобых афяр.
>
> Вось чаму рэвалюцыйная пільнасць з'яўляецца той самай якасцю, якая асабліва неабходна цяпер большэвікам».

В. Кірвоцін

# Геніяльны паэт рускага народу

*(Да стагоддзя з дня смерці А. С. Пушкіна)*

Прайшло сто год з таго дня, калі найвялікшы рускі паэт Александр Сергеевіч Пушкін, затраўлены ўрадам Нікалая I і вялікасвецкім грамадствам, загінуў на дуэлі ад рукі міжнароднага прахадзімца прадстаўніка айчыннай і еўрапейскай рэакцыі.

Смерць Пушкіна была буйнейшай падзеяй у рускай гісторыі першай трэці XIX века. Царскі ўрад прыняў усе меры к таму, каб замоўчаць ці сказіць акалічнасці пагібелі паэта, не даць распаўсюджвацца верным весткам аб ей. Але затушаваць сэнс ракавой дуэлі кіруючым колам царскай Расіі не ўдалося. У глухой маўклівасці крывавага нікалаеўскага царавання масы ўпершыню пасля паражэння дзекабрыстаў вышлі на вуліцы Пецербурга, каб—няхай стыхійна—выказаць сваё гора з прычыны смерці паэта—нацыянальнай гордасці Расіі, сваю нянавісць да тых, хто загубіў Пушкіна ў росквіце гадоў і таленту.

Тлум народу вакол дома, дзе ляжала цела загінуўшага паэта, быў так вялікі, што ўрад спалохаўся. Былі выкліканы войскі; дом Пушкіна быў наводнёны жандарамі. Адпяванне адбывалася ўночы, потайком, у першай трапіўшай царкве; затым з найвялікшай паспешнасцю цела паэта пад аховай жандара адаслалі хаваць у Пскоўскую губернію, у вёску бацькоў Пушкіна. Пахаванне Пушкіна напамінала пахаванне дзяржаўнага злачынцы.

Друку было загадана маўчаць аб смерці паэта. Было забаронена пісаць нават пра яго творчасць. На александрыйскай сцэне ў дні смерці паэта павінна была ісці п'еса Пушкіна «Скупой рыцарь». Каб пазбегнуць дэманстрацыі публікі, п'есу знялі.

Малодшы сучаснік Пушкіна, Лермантаў, у вершы «Смерть паэта» выказаў смутак народу і гнеў супроць забойц і таніцеляў Пушкіна; верш заканчваўся такімі словамі:

> «И вы не смоете всей вашей черной кровью
> Поэта праведную кровь!»

Верш Лермантава быў забаронен, а сам ён у накаранне быў сасланы на фронт, у дзеючую Каўказскую армію.

Самадзяржаўе, рэакцыйныя колы, прыгонніцкае дваранства адносіліся да творчасці Пушкіна непрымірыма варожа. Яго творы ўродвала цэнзура. Для труслівых рускіх ліberalаў паэзія Пушкіна таксама была занадта свабодалюбіва, занадта атэістычна, занадта пранізана ідэяй роўнасці людзей.

Буржуазія хацела ператварыць паэзію Пушкіна, насычаную перадавымі ідэямі еўрапейскай асветы і вызваленчага руху ў Расіі, у зброю, накіраваную супроць усіх, хто глядзеў на мастацтва як на саюзніка ў вызваленчай, рэволюцыйнай барацьбе, у тым ліку супроць Белінскага, Чэрнышэўскага і Дабралюбава.

Дваранскай рэакцыі ўдалося загубіць Пушкіна; буржуазнае літаратуразнаўства стварыла груды кніг, у якіх тануў сапраўдны вобліх паэта; але заглушыць яго магутны голас, зацміць яго сонечнае аблічча буржуазіі не ўдалося. Народныя масы і скрозь тоўшчу скажэнняў адчувалі сапраўднага Пушкіна.

Совецкі народ беражна ачысціў творчасць паэта ад амаль стагадовай плесні антынародных талкаванняў. У нашыя дні споўнілася тое, аб чым пісаў паэт незадоўга да сваёй смерці:

«Я памятник воздвиг себе нерукотворный,
К нему не зарастет народная тропа,
Вознесся выше он главою непокорной
 Александрийского столпа.
Нет, весь я не умру—душа в заветной лире
Мой прах переживет и тленья убежит—
И славен буду я, доколь в подлунном мире
 Жив будет хоть один пиит.
Слух обо мне пройдет по всей Руси великой,
И назовет меня всяк сущий в ней язык:
И гордый внук славян, и финн, и ныне дикой
 Тунгуз, и друг степей калмык.
И долго буду тем любезен я народу,
Что чувства добрые я лирой пробуждал,
Что в мой жестокий век восславил я Свободу
 И милость к падшим призывал».

Пушкіна ведае кожны граматны грамадзянін нашай вялікай многанацыянальнай краіны: і рускі, і украінец, і беларус, і грузін, і армянін, і таджык, і узбек і інш. Творы яго перакладзены на мовы амаль усіх народаў, якія насяляюць Совецкі Саюз, у тым ліку і на фінскую, і на тунгузскую, і на калмыцкую. Творы Пушкіна друкуюцца велізарнымі тыражамі.

* * *

Які-ж праўдзівы вобліх паэта? За што мы любім і шануем Пушкіна? Каб адказаць на гэтыя пытанні, трэба перш за ўсё напомніць, што Пушкін рос і развіваўся, убіраючы ў сябе інтэрнацыянальныя багацці еўрапейскай культуры і багацці рускай народнай паэзіі, не скажонай пераробкамі і талкаваннямі пануючых вярхоў.

Пушкін рана пачаў чытаць. У доме яго бацькі была багатая французская бібліятэка. Яго малодшы брат Леў успамінаў: «... дзіця праводзіла бяссонныя ночы і тайком у кабінеце бацькі пажырала кнігі адну за другой». К адзінаццаці гадам Пушкін добра ведаў французскіх класікаў і творы французскіх асветнікаў XVIII века—матэрыялістаў і атэістаў. Такім чынам, з ранняга дзяцінства Пушкін прылучаўся да перадавых ідэй агульнаеўрапейскай культуры. Будучы паэт, аднак, не быў ізаляваны ад уражанняў рускага жыцця: з дзяцінства ён быў знаёмы з рускай народнай творчасцю. Яго няняй была прыгонная ся-

лянка Арына Радзівонаўна, якая ведала мноства народных казак, увадзіла хлопчыка ў цудоўны свет народнай фантазіі. Разам з прыстаўленым да яго «дзядзькай»—прыгонным селянінам Нікітай Цімафеевічам Казловым— маленькі Пушкін брадзіў па Маскве, прыглядаючыся да «простанароднага» жыцця і прыслухоўваючыся да «простанароднага» маскоўскага складу мовы. Уплывы перадавой еўрапейскай асветы перапляталіся з уражаннямі нацыянальна-рускімі.

Так было на працягу ўсяго жыцця паэта. Ён заўсёды адчуваў сябе плоцю ад плоці рускага народу, праяўляючы велізарнейшы інтарэс да яго гісторыі і яго сучаснага становішча. У той-жа час Пушкін прагна ўцягваў магутны паток перадавых ідэй, што ішлі з больш асвечанай гады Заходняй Еўропы.

Сваё агромнае дараванне Пушкін паставіў на службу народу, ён пісаў для народу, у народзе бачыў сапраўднага суддзю сваіх твораў.

Пастанова савецкага ўрада аб правядзенні сёгодняшага юбілею са дня смерці Пушкіна называе вялікага паэта творцам рускай літаратурнай мовы і роданачальнікам новай рускай літаратуры. Да Пушкіна пераважная большасць пісьменнікаў—найбольш дваране, арыстакраты— пісала на штучнай, кніжнай, цяжкай мове, багатай царкоўна-славянскімі выражэннямі, іменамі антычных багоў, надта часта ўжываючы звароты, уласцівыя толькі замежным мовам. Масам гэта штучная мова была незразумела. Але пісьменнікі да Пушкіна і не цікавіліся гэтым: яны тварылі не для народу, а для абранай верхавінкі. Таму многія з іх проста пагарджалі народнаю моваю. Незадоўга да пачатку дзейнасці Пушкіна Карамзін і Жукоўскі пачалі рэформу літаратурнай мовы, ачышчаючы яе ад кніжных і славянскіх зваротаў. Аднак яны не маглі выканаць да канца гэтай работы, бо стаялі надта далёка ад народу.

Пушкін вучыўся мове ў народу. Ён уцвердзіў у рускай літаратуры агульнадаступную мову, аснаваную на жывой, размоўнай народнай мове. Пушкін патрабаваў прастаты і яснасці літаратурнай мовы. Ён жорстка высмейваў штучную напышлівасць:

> «Што сказаць аб нашых пісьменніках, якія, уважаючы за нізасць вытлумачыць проста рэчы самыя звычайныя, думаюць ажывіць дзіцячую прозу (застарэлымі) дапаўненнямі і вялымі метафарамі! Гэтыя людзі ніколі не скажуць дружба, не дадаўшы: «сие священное чувство, коего благородный пламень, и проч.»—Трэба было-б сказаць: «рано поўтру»,—а яны пішуць: «едва первые лучи восходящего солнца озарили восточные края лазурного неба». Як ўсё гэта нова і свежа, хіба яно лепш таму толькі, што даўжэй?..
>
> Дакладнасць і кароткасць—вось першыя вартасці прозы. Яна патрабуе думак і думак—без іх бліскучыя выражэнні ні да чаго не служаць» *).

І ў сваёй мастацкай творчасці, і ў літаратурна-крытычных артыкулах, і ў якасці рэдактара журнала «Современник» Пушкін змагаўся за народнасць мовы, за прастату і яснасць літаратурнага выкладання.

Пушкін з'яўляецца творцам сучаснай рускай мовы, той самай мовы, на якой гаворыць разняволены пралетарскай рэвалюцыяй рускі

*) А. С. Пушкін. Поўны збор твораў. Т. VI, стар. 26—27. Дзяржлітвыдав. 1936.

народ. Гэта не раз падкрэсліваў Ленін, ставячы пытаньне аб складаньні слоўніка рускай мовы.

> «Забыўся пры спатканьні прасіць Вас праверыць,—пісаў Ленін Літкенсу,—як стаіць справа з Камісіяй вучоных, складаючых слоўнік (кароткі) сучаснай (ад Пушкіна да Горкага) рускай мовы *).

К пытаньню аб складаньні слоўніка Ленін звярачаўся не раз, кожны раз падкрэсліваў, што сучасная руская мова пачынаецца ад Пушкіна.

Барацьба за чыстату мовы была ў Пушкіна цясьнейшым чынам звязана з барацьбой за рэалізм. Пушкін быў першым рэалістам у рускай літаратуры: да яго ў Расіі панаваў ложнакласіцызм, што развіўся з пераймання французскай мастацкай літаратуры XVIII стагодзьдзя, якая ў сваю чаргу складалася пад моцным уплывам класічнай старажытнасці. Ложнакласічныя паэты лічылі асноўным захоўваньне штучных правіл, запазычаных галоўным чынам з рымскай і грэчаскай літаратуры. Ложнакласіцызм быў проста варожы рэалізму, патрабуючы пераймання старых літаратурных узораў, а не праўдзівага паказу рэчаіснасці. Яшчэ Карамзін і Жукоўскі выступалі супроць ложнакласіцызма: яны перасталі следваць штучным правілам ложнакласіцызма і пачалі прыбягаць да больш натуральных форм мастацкай творчасці. Аднак хоць іх літаратурная дзейнасць і была крокам уперад у развіцці рускай літаратуры, але ў аснове іх сэнтыментальна-раманічнага напрамку ляжалі рэлігійна-ідэалістычныя погляды, якія адштурхвалі пісьменніка ад рэальнай рэчаіснасці. Сэнтыменталісты-рамантыкі Карамзін і Жукоўскі былі паэтамі прыгонніцкага дваранства: у прыфарбаваным выглядзе, сусальна рысавалі яны становішча народных мас у Расіі.

Пушкін першым павярнуў рускую літаратуру ў русла рэалізма. Ён не адварочваўся ад супярэчнасцей рэчаіснасці, не замыкаўся ў вузкае кола арыстакратычнага і дваранскага жыцця. Ён зрабіў прадметам праўдзівага, цьвярозага адлюстравання усе слаі рускага грамадзтва—не толькі дваран і знаць, але і мяшчан, рамеснікаў і сялян, «дворец и хату, чердак и келью».

Пушкін спалучаў існіну і прастату ў адлюстраваньні рэчаіснасці з крытычнымі адносінамі да гэтай рэчаіснасці. Таму ён якраз і змог упершыню ў гісторыі рускай літаратуры даць такія поўныя, такія верныя, такія праўдзівыя малюнкі рэчаіснасці, што яго акружала. Белінскі назваў яго раман у вершах «Евгений Онегин» энцыклапедыяй рускага грамадства таго часу.

> «... У Онегіна,—пісаў Белінскі,—мы бачым паэтычна-ўзноўлены малюнак рускага грамадства, узятага ў адным з цікавейшых момантаў яго развіцця. З гэтага пункту погляду Еўгеній Онегін ёсць паэма гістарычная ў поўным сэнсе слова, хоць у ліку яе герояў няма ніводнай гістарычнай асобы. Гістарычная вартасць гэтай паэмы тым вышэй, што яна была на Русі і першым і бліскучым вопытам у гэтым родзе. У ёй Пушкін з'яўляецца не проста паэтам толькі, але і прадстаўніком упершыню-абудзіўшайся грамадскай самасвядомасці: заслуга бязмерная!» **) «Онегіна» можна назваць энцыклапедыяй рускага жыцця і ў вышэйшай ступені народным творам» ***).

---

*) Ленінскі зборнік XX, стар. 315.

**) В. Г. Белінскі. Поўны збор твораў. Т. XII, стар. 74. Дзяржвыд. 1926.

***) Там-жа, стар. 144.

Да Пушкіна, пад уплывам ложнакласіцызма, і нават пазней пад уплывам Байрана, пісьменнікі рысавалі людзей як носьбітаў адной, строга акрэсленай страсці, раздуваючы адну рысу характару, стушоўваючы складанасць чалавечай псіхалогіі. Пушкін разумеў складанасць чалавечага характару; ён першы ў характарах сваіх герояў умеў спалучаць, як гэта ёсць у рэчаіснасці, многа розных якасцей, часамі супярэчлівых.

Пасля Пушкіна рэалізм становіцца пануючым напрамкам рускай класічнай літаратуры. Гогаль быў прамым вучнем Пушкіна. Без Пушкіна мы не мелі-б вялікіх дасягненняў рускай літаратуры, адзначаных іменамі Лермантава, Некрасава, Тургенева, Талстога, Горкага.

* * *

Пераатварэнне рускай літаратуры, ажыццёўленае Пушкіным, тлумачыцца не толькі яго геніяльнасцю: геній Пушкіна толькі таму мог разгарнуцца ва ўсёй сваёй творчай магутнасці, што ён быў звязан з прагрэсіўнымі і рэвалюцыйнымі рухамі яго эпохі. Пушкін вырас і развіваўся на грэбні рэвалюцыйнага ўздыму 20-х гадоў у Еўропе і ў Расіі. Ленін у артыкуле «Памяці Герцэна» гаворыць аб змене пакаленняў і класаў у гісторыі рэвалюцыйнага руху ў Расіі XIX века:

> «Ушаноўваючы Герцэна, мы бачым ясна тры пакаленні, тры класа, якія дзейнічалі ў рускай рэвалюцыі. Спачатку—дваране і памешчыкі, дзекабрысты і Герцэн. Вузка кола гэтых рэвалюцыянераў. Страшна далекі яны ад народу. Але іх справа не прапала. Дзекабрысты разбудзілі Герцэна. Герцэн разгарнуў рэвалюцыйную агітацыю.
>
> Яе падхапілі, расшырылі, умацавалі, загартавалі рэвалюцыянеры-разначынцы, пачынаючы з Чэрнышэўскага і канчаючы героямі «Народнай волі». Шырэй стала кола барацьбітоў, бліжэй іх сувязь з народам. «Маладыя штурманы будучай буры»—зваў іх Герцэн. Але гэта не была яшчэ самая бура.
>
> Бура, гэта—рух самых мас. Пролетарыят, адзіны да канца рэвалюцыйны клас, узняўся на чале іх і ўпершыню ўзняў да адкрытай, рэвалюцыйнай барацьбы мільёны сялян. Першы націск буры быў у 1905 годзе» *).

Пушкін, які нарадзіўся і вырас у дваранскім асяроддзі, адлюстраваў у сваёй творчасці рэвалюцыйны ўздым дзекабрыстаў. Разам з дзекабрыстамі ён уважліва сачыў за рэвалюцыйнымі падзеямі ў Еўропе, востра перажываў далятаўшыя да яго звесткі аб рэвалюцыйнай барацьбе на Захадзе: у Італіі, у Грэцыі, ва Францыі, у Германіі. Пушкін з радасцю сустрэў часовы трыумф рэвалюцыі ў Іспаніі, на чале з Рыего, і быў узрушан перамогай рэакцыі, якая неўзабаве наследавала. Ёсць звесткі, што Пушкін меў намер паступіць добраахвотнікам у атрад Іпсіланці—аднаго з удзельнікаў нацыянальна-вызваленчай барацьбы Грэцыі супроць турэцкага ярма. Пушкін не быў членам тайнага таварыства дзекабрыстаў, але ён страсна імкнуўся ў рады гэтага таварыства. Пазней, ужо пасля разгрому дзекабрыстаў, пры спатканні з Нікалаем I, звернуты з ссылкі Пушкін на пытанне цара, што-б ён рабіў, калі-б быў 14 снежня ў Пецербургу,

*) В. І. Ленін. Творы т. XV, стар. 468.

не хістаючыся адказаў, што быў-бы разам з мяцежнікамі на Сенацкай плошчы.

У адным з сваіх юнацкіх пасланняў Пушкін напісаў прарочыя радкі:

«Товарищ, верь: взойдет она,
Звезда пленительного счастья,
Россия вспрянет ото сна,
И на обломках самовластья
Напишут наши имена!».

Пушкін ярасна бічаваў самадзяржаўе. У одзе «Вольность» ён пісаў:

«Самовластительный злодей,
Тебя, твой трон я ненавижу...».

Ён заклікаў да паўстання:

«Тираны мира! трепещите!
А вы, мужайтесь и внемлите,
Восстаньте, падшие рабы!»

У шматлікіх эпіграмах паэт высмейваў цароў, урэменшчыкаў, міністраў, вяльмож, царкоўных дзеячоў рэакцыі.

Пушкін верыў, што ідэал палітычнай свабоды хутка ажыццявіцца. Аднак рэвалюцыйны ўздым 20-х гадоў быў разбіты паўсямесна: і на Захадзе і ў Расіі. Паражэнне рэвалюцыйных хваляванняў першай паловы 20-х гадоў у Еўропе, паражэнне дзекабрыстаў у Расіі зрабіла на Пушкіна надта цяжкае ўражанне. Ён зразумеў, што ў сучаснай яму рэчаіснасці не было актыўна дзеючых сіл, якія маглі-б звергнуць самадзяржаўе. Выходзячы са свайго разумення суадносін грамадскіх сіл, Пушкін паспрабаваў было дамовіцца з самадзяржаўем. Ён думаў, што Нікалай I, разграміўшы дзекабрыстаў, дорэ у якасці ўзору для пераймання дзейнасці самага буйнага з рускіх цароў— Пятра Вялікага. Пушкіну хацелася верыць, што Нікалай, як Пётр I, будзе распаўсюджваць асвету, клапаціцца, хоць у малой ступені, аб інтарэсах народу, абараніць нацыянальную годнасць Расіі на міжнароднай арэне. Аднак Пушкін надта хутка пераканаўся, што Нікалай I—проста тупы, рэакцыйны, бязлітасны тыран.

Пушкін пераходзіць зноў у прамую апазіцыю да самадзяржаўя.

«На таго я перастаў злавацца,—пісаў ён пра цара ў адным са сваіх пісем жонцы,—таму што... не ён вінаваты ў свінстве, яго акружаючым. А жывучы ў нужніку, міжволі прывыкнеш к г... і смурод яго табе не будзе праціўны, дарма што джэнтльмен. Ух каб мне ўцячы на чыстае паветра.»

Пушкін зразумеў, што цар—сіла, варожая свабодзе, асвеце і мастацтву. Паэт усвядоміў, што ён безабаронны палоннік цара, палоннік, які жыве пад пастаяннай пагрозай расправы. Але ў той час як падаўляючая большасць рускага грамадства кінулася ў абнімкі рэакцыі, Пушкін усё больш пранізвае сваю творчасць дэмакратычнымі настроямі, звязваючымі яго з Герцэнам і Белінскім, якія пачалі сваю дзейнасць у канцы жыцця Пушкіна.

Пушкін усё жыццё ненавідзеў прыгоннае права і страсна жадаў яго знішчэння. У вершы «Деревня» ён ярка нарысаваў жахі прыгонніцтва:

«Не видя слез, не внемля стона,
На пагубу людзей избранное судьбой,

Здесь рабство тощее влачится по браздам
Присвоило себя насильственной лозой
И труд, и собственность, и время земледельца.
Склонясь на чуждый плуг, покорствуя бичам,
Здесь рабство тощее влачится по браздам
Неумолимого владельца».

Пушкін глыбока задумваўся над адносінамі памешчыкаў і сялян. Ён бачыў, што прыгоннае права ператварае селяніна ў прадмет бесчалавечнай эксплаатацыі і катаванняў, ён зразумеў сапраўдныя пачуцці прыгонных рабоў у адносінах да дваран, землеўласнікаў.

У «Истории села Горюхина» Пушкін пакінуў сатырычны малюнак прыгоннага права, бесчалавечнага гаспадарання памешчыкаў, разарэння і збяднення прыгонных сялян:

«4 мая. Снег. Трышка за грубасць біты. 6—карова бурая пала. Сенька за п'янства біты. 8—пагода ясная. 9—дождж і снег. Трышка біты па пагодзе...»

Бязлікія Трышкі і Сенькі плацілі нянавісцю сваім уласнікам, паднімаючыся супроць іх пры ўсякім зручным выпадку з коллем і віламі.

Пасля паражэння дзекабрыстаў узаемаадносіны памешчыкаў і прыгонных сялян становяцца цэнтральнай тэмай пушкінскай творчасці. Прагна ўглядаецца ён у сучасныя яму сялянскія хваляванні. У аповесці «Дубровский» ён рысуе малюнак сялянскіх бунтаў, у час якіх сяляне агнём і мечам распраўляюцца з памешчыкамі. Ад гэтых малюнкаў думка Пушкіна, натуральна, звярнулася да паўстання Пугачова, якое за поўвека перад тым узрушыла дашчэнту самадзяржаўную, памешчыцкую Расію. Вывучаючы паўстанне Пугачова, Пушкін рыўся ў архівах, збіраў сведчанні сучаснікаў, прадпрыняў спецыяльную паездку, каб на месцы знайсці сляды паўстання Пугачова. Вынікі інтарэсу Пушкіна да руху Пугачова выразіліся ў рамане «Капитанская дочка» і ў спецыяльным гістарычным творы, азагалоўленым «История Пугачева». У гэтых сваіх творах Пушкін адлюстроўвае пачатковыя працэсы новага рэвалюцыйнага уздыму, звязанага з абвастрэннем нездаволенасці сялянскіх мас.

Нельга не дзівіцца гістарычнай чуткасці Пушкіна: ён зрабіў аб'ектам сваей творчасці тыя працэсы, якія аформіліся і выліліся наверх праз доўгі час пасля яго смерці, у 60-х гадах XIX века. У гэтым—найярчэйшае сведчанне прагрэсіўнасці творчасці Пушкіна.

* * *

Геніяльнасць даравання, імкненне да народнасці і чыстаты мовы, рэалізм, прагрэсіўнасць светапогляду Пушкіна тлумачаць нам вялікія вартасці яго творчасці.

Буржуазныя літаратуразнаўцы многа гаварылі аб тым, што паэзія Пушкіна апалітычна. Гэтыя сцверджанні з'яўляюцца ліберальнай бязглуздзіцай.

Ужо першыя ліцэйскія вершы Пушкіна прасякнуты агнём палітычнага свабодалюб'я. «Я сердцем римлянин; кипит в груди свобода»,—гаварыў пра сябе юнак Пушкін у вершы «К Лицинию».

Вершы Пушкіна пасля сканчэння ліцэя наклікалі на яго палітычныя рэпрэсіі ў выглядзе ссылкі на поўдзень задоўга да таго, як урад стаў прымяняць рэпрэсіі супроць дзекабрыстаў.

На поўдні Пушкін падпадае пад ўплыў байранізма: пад уплывам Байрана напісаны «Кавказский пленник», «Цыганы». Аднак пратэст Байрана супроць рэакцыі насіў занадта адцягнены характар. У сваім пратэсце супроць сучаснай яму рэчаіснасці вялікі англійскі паэт упадаў у нястрымны індывідуалізм. Яго героі—гордыя эгаісты, якія пагарджаюць іншымі людзьмі. Байран быў песімістам. Пушкін усвоіў пратэстуючы бок паэзіі Байрана. Але Пушкін у адзнаку ад Байрана быў аптымістам. Ён пратэставаў супроць уціску і недасканаласцей грамадскага ладу ва імя шчасця ўсіх людзей, і верыў, што гэта шчасце дасягальна на зямлі. Самалюбства і эгаізм Пушкін лічыў не станоўчымі, а адмоўнымі якасцямі. Алеко ў паэме «Цыганы» асуджан Пушкіным за тое, што ён для сябе толькі хоча волі.

Матэрыялістычны і атэістычны погляд Пушкіна на свет асабліва ярка сказаўся ў напісанай ім на поўдні антырэлігійнай паэме «Гаврилиада».

Летам 1824 года ўрад перамяніў месца ссылкі Пушкіна. З поўдня Расіі ен быў перавезен у маёнтак бацькоў сяло Міхайлаўскае, Пскоўскай губерні. Тут Пушкін паглыбляе народнасць і рэалізм сваей творчасці стараннным вывучэннем гісторыі і народнай творчасці. Цікавасць да гісторыі рускага народу выклікала да жыцця трагедыю «Борис Годунов». Працуючы над «Борисом Годуновым», Пушкін ужо вызваліўся ад уплыву Байрана. У гэты час на яго аказвалі агромны ўплыў трагедыі Шэкспіра—вялікага майстра выяўлення чалавечых характараў.

> «Не змушчаемы ніякім іншым уплывам,—расказваў Пушкін,—Шэкспіра я пераймаў у яго вольным і шырокім выяўленні характараў, у нядбалым і простым складанні тыпаў. Карамзіну следваў я ў светлым развіцці падзей, у летапісах стараўся ўгадаць вобраз думак і мову тадышніх часоў. Крыніцы багатыя!» *)

Аднак Пушкін, калі пісаў «Бориса Годунова», думаў не толькі аб праўдзівым паказе мінулай рэчаіснасці: тэма «Бориса Годунова»—гэта тэма народу і улады, і мысль, якую паэт хацеў выразіць у трагедыі,—гэта мысль аб тым, што улада моцна грамадскай, народнаю думкай.

Пасля разгрому дзекабрыстаў імператар Нікалай І вярнуў Пушкіна з ссылкі, каб трымаць яго пад больш блізкім кантролем і наглядам. Не гледзячы на неспрыяючыя ўмовы, на недавер'е і праследванні ўрада Пушкін працаваў вельмі многа і плёдатворна. З павышанай цікавасці Пушкіна да эпохі Пятра Вялікага вырасл такія выдатныя творы, як «Полтава» і «Арап Петра Великого».

У радзе твораў, напісаных пасля звароту з ссылкі, Пушкін з вялікай настойлівасцю ставіць пытанне аб мэце паэзіі і прызначэнні паэта. Пушкін хацеў, каб яго геній прыносіў карысць краіне і народу. Пушкін не раз марыў аб ролі паэта-сатырыка, які кляймуе грамадскія заганы, выстаўляе на ўсенароднае ганьбаванне ўсё подлае і рэакцыйнае.

Аднак рускае грамадства пасля ўзцарэння Нікалая І было такім, што для Пушкіна паміж гэтым грамадствам і паэзіяй існавала непраходнае бяздонне. Усведамленне процілегласці паміж пустым, дробным і безыдэйным жыццём нікалаеўскага грамадства і паэзіяй

*) А. С. Пушкін. Поўны збор твораў. Т. VI, стар. 74—75.

Пушкін выразіў надта ярка ў радзе вершаў: «Поэт», «Чернь», «Сонет» і т. д.

Процістаўленне Пушкіным мастацтва і грамадства насіла канкрэтна-гістарычны, а не ўсеагульны характар, як гэта спрабавалі прадставіць буржуазныя літаратуразнаўцы. Погляды Пушкіна не мелі нічога агульнага з ідэалістычнай тэорыяй «мастацтва для мастацтва», антыдэмакратычнай, адкрыта пагарджаўшай народнымі масамі.

Пушкін ніколі не забываў, што ён піша для народу. Распрацоўваючы ў радзе твораў тэму мастацтва і грамадства, Пушкін процістаўляе сябе карысным пісакам, якія складалі вершы так, як ім загадвалі ўладу маючыя.

«Блажен в златом кругу вельмож
Пиит, внимаемый царями.
Владея смехом и слезами,
Приправя горькой правдой ложь,
Он вкус притупленный щекотит
И к славе спесь бояр охотит.
Он украшает их пиры
И внемлет умные хвалы.
Меж тем, за тяжкими дверями,
Теснясь у черного крыльца,
Народ, толкаемый слугамі,
Поодаль слушает певца».

Тыя самыя вершы Пушкіна, якія змяшчаюць думку аб незалежнасці мастацтва ад нікалаеўскага грамадства (што лібералы талкавалі як маніфест «чыстага мастацтва»), адначасова змяшчаюць у сабе пякучае сатырычнае абвінавачанне пануючай знаці і прыгонніцкага дваранства:

«Пойдите прочь—какое дело
Поэту мирному до вас!
В разврате каменейте смело:
Не оживит вас лиры глас!
Душе противны вы как гробы.
Для вашей глупости и злобы
Имели вы до сей поры
Бичи, темницы, топоры;
Довольно с вас, рабов безумных!»

Замыкаючыся ў сабе, адзінокі ў асяроддзі рэакцыйнага грамадства, Пушкін праз галаву багатых і ўладарных «чэрні» зварачаўся да народу, тады яшчэ ў пераважнай большасці бязграматнага і маўклівага, зварачаўся да будучых пакаленняў.

У 1830 годзе Пушкін закончыў свой выдатны раман у вершах «Евгений Онегин». Мы ўжо прыводзілі водзыў Белінскага аб ім. Высокі ўзровень адукацыі паэта, шырокае знаёмства з рускай рэчаіснасцю, з рознымі раёнамі краіны, з яе гісторыяй, уважлівае вывучэнне ўзаемаадносін памешчыкаў і сялян далі свае пладні: рэалізм Пушкіна дасяг поўнай спеласці ў гэтым творы. Гэта выявілася і ў радзе іншых яго твораў: «Моцарт и Сальери», «Каменный гость», «Повести Белкина», «Капитанская дочка», «Дубровский» і інш.

З твораў, напісаных Пушкіным у апошні перыяд яго жыцця, належыць выдзеліць паэму «Медный всадник». Дзеянне паэмы адбываецца ў час жудаснай паводкі ў Пецербургу ў 1824 годзе. Ідэя «Медного

всадника»—сутычка асобы, якая абудзілася і прад'яўляе свае правы на шчасце, незалежнасць і свабоду, з самадзяржаўем. Пушкін лічыў самадзяржаўе на той перыяд гістарычна немінучым; у паэме яно выведзена ў асобе Петра I. Аднак Пушкін, і схіляючыся перад пераўтварэннямі Петра I, паказвае, што сродкі, якімі карыстаўся нават самы выдатны з рускіх цароў, былі бесчалавечны. Герой паэмы Яўгеній гіне ў сутычцы з Медным коннікам, але ў гэтым процістаўленні чалавечнасці Яўгенія і бесчалавечнасці самадзяржаўя кідаць думку аб тым, што ў будучым гуманныя пачаткі чалавечага грамадства пераможуць.

* * *

Гуманныя ноты ў творчасці Пушкіна не былі выпадковы. Пушкін быў вялікім гуманістам. Белінскі ўказваў на гуманізм Пушкіна, як на асноўны ідэйны змест яго творчасці.

> «Да асаблівых уласцівасцей яго паэзіі, пісаў Белінскі,—належыць яго здольнасць развіваць у людзях пачуцце прыгожага і пачуцце **гуманнасці**, разумеючы пад гэтым словам бясконцую павагу да годнасці чалавека, як чалавека... Прыдзе час, калі ён будзе ў Расіі паэтам **класічным**, па тварэннях якога будуць ствараць і развіваць не толькі эстэтычнае, але і маральнае пачуцце...» *).

*Мастацтва Пушкіна*—маральнае мастацтва не ў ханжаскім сэнсе гэтага слова, не таму, што ў паэзіі Пушкіна адсутнічаюць надмернасці маладога разгулу, а таму, што ў ёй праявілася аформіўшаяся гуманная чалавечая асоба, якая разглядала іншых людзей не толькі як роўных сабе, але і як умову развіцця ўласных дараванняў і ўласнага шчасця. Паэзія Пушкіна насычана станоўчымі соцыяльнымі пачуццямі.

Маральна здаровыя адносіны да людзей Пушкін не абмяжоўваў колам блізкіх: яны пашыраліся на ўсіх людзей.

Як-жа развіліся чалавечнасць, гуманнасць, натуральнасць у Пушкіна, узгадаванага на дваранскай глебе?

Першае, на што трэба ўказаць, як на крыніцу гуманнасці Пушкіна,—гэта перадавыя погляды узыходзячай буржуазіі XVIII века, асабліва французскіх «асветнікаў».

Якім чынам перадавая буржуазная асвета XVIII века магла паслужыць крыніцай гуманных пачуццяў,—лепш за ўсе вытлумачыў Ленін. У адным са сваіх артыкулаў Ленін пісаў аб рускім буржуазным асветніку Скалдзіне:

> «Мы сказалі вышэй, што Скалдзін—буржуа. Довады гэтай характарыстыкі былі ў дастатковай колькасці прыведзены вышэй, але неабходна агаварыцца; што ў нас часцяком надта няправільна, вузка, анты-гістарычна разумеюць гэтае слова, звязваючы з ім (без розніцы гістарычных эпох) своекарысную абарону інтарэсаў меншасці. Нельга забываць, што ў тую пару, калі пісалі асветнікі XVIII века (якіх агульнапрызнаная думка адносіць да важакоў буржуазіі), калі пісалі нашы асветнікі ад 40-х да 60-х гадоў, усе грамадскія пытанні зводзіліся да барацьбы з прыгонным правам і яго рэшткамі. Новыя грамадска-

*) В. Г. Белінскі. Поўны збор твораў. Т. XII, стар. 218—219.

> эканамічныя адносіны і іх супярэчнасці тады былі яшчэ ў зародкавым стане. Ніякага своекарысця таму тады ў ідэолагах буржуазіі не праяўлялася; наадварот, і на Захадзе і ў Расіі яны зусім шчыра верылі ў агульны добрабыт і шчыра жадалі яго, шчыра не бачылі (часткова не маглі яшчэ бачыць) супярэчнасцей у тым ладзе, які вырастаў з прыгоннага. Скалдзін не дарма цытуе ў адным месцы сваёй кнігі Адама Сміта: мы бачылі, што і погляды яго і характар яго аргументацыі ва многім паўтараюць тэзісы гэтага вялікага ідэолага перадавой буржуазіі» *).

Пушкін не быў буржуа, але ён падпадаў пад уплыў перадавой, прагрэсіўнай буржуазнай ідэалогіі, у тым ліку і Адама Сміта, якога ўспамінае тут Ленін. Ад буржуазнай асветы Пушкін засвоіў усведамленне неабходнасці адмены прыгоннага права. Як і «асветнікі» XVIII века, ён верыў, «што адмена прыгоннага права і ўсіх яго рэштак стварае на зямлі царства ўсеагульнага добрабыту» **).

Матэрыялістычны па свайму духу, гуманізм Пушкіна уладаў тым-жа недахопам, які Маркс і Энгельс выявілі ў адцягненым матэрыялізме Фейербаха. Пушкін занадта абстрактна, занадта адцягнена глядзеў на чалавека. Для яго чалавек быў не класава акрэслены чалавек, а чалавек «наогул». Пушкін у сваей паэзіі і ў сваім светапоглядзе, як і Фейербах у сваей філасофіі, «ніколі не дабіраецца да рэальна існуючых дзейных людзей, а застаецца пры абстракцыі «чалавек» і абмяжоўваецца толькі тым, што прызнае «сапраўднага, індывідуальнага, цялеснага чалавека» у галіне пачуцця, г. зн. не ведае ніякіх іншых «чалавечых адносін» «чалавека к чалавеку», акрамя любві і дружбы, к таму-ж ідэалізаваных. Ён не дае крытыкі цяперашніх жыццёвых адносін» ***).

Пушкін не разумеў, што за чалавечнасць трэба змагацца, што адзіным сродкам дабіцца трыумфу гуманізма з'яўляецца рэвалюцыйнае насілле. У Пушкіна Дуброўскі благародней і чалавечней сваіх ворагаў; ён толькі паняволі бярэцца за зброю і апускае гэтую зброю перад прымірающай сілай любві. Але што толку у благародстве Дуброўскага? Яго благародства пакідае ўладу, багацце ў руках Траекуравых і Верэйскіх.

Пакуль існуюць класы, нельга пазбавіцца альтэрнатывы: або самому падпадаць насіллю з боку сытых і бесчалавечных або прымяніць рэвалюцыйнае насілле супроць пануючай меншасці эксплаататараў у імя інтарэсаў працоўнай большасці.

Калі кучка гнюсных, расстрэленых слуг фашызма спрабуе здрадай, прадажніцтвам і тэрорам вярнуць рабочых і сялян нашай краіны пад ярмо капіталістычнай эксплаатацыі, аддаць іх на фашысцкае самавольства, совецкі народ знішчэннем гэтых ворагаў соцыялізма забяспечвае трыумф соцыялістычнага гуманізма. Вось чаму ўвесь наш многанацыянальны народ і ўсе перадавое і прагрэсіўнае чалавецтва віталі суровы, але справядлівы прысуд совецкага суда подлым здраднікам радзімы, крывавым трацкісцкім, зіноўеўскім сабакам.

* * *

Пушкін знаходзіўся ў канфлікце з акружаючай яго рэчаіснасцю, але не ведаў, як змагацца з ёю; рэчаіснасць была мацней яго: гэта

*) В. І. Ленін. Тв. Т. II, стар. 315.
**) Там-жа, стар. 313.
***) К. Маркс і Ф. Энгельс. Тв. Т. IV, стар. 35

чорная нікалаеўская рэчаіснасць загубіла Пушкіна. Але ў кожным пункце, у якім Пушкін быў біты жыццём, будучае было за ім. Пушкін і сёння дораг нам не толькі «прелестью живой стихов»; Пушкин жыве не толькі сваімі гістарычнымі заслугамі, не толькі як рэфарматар мовы і неперавышаны мастак: нам дорага свабодалюб'е паэта; любоў да свабоды і незалежнасці, якая дыхае ў творах вялікага паэта, радніць нас з яго творчасцю.

Сталінская Канстытуцыя сацыялізма ўвасобіла ў жыццё самыя смелыя надзеі лепшых барацьбітоў за палітычную свабоду.

Партыя Леніна—Сталіна, дыктатура рабочага класа ў СССР практычна ўвасабляюць у жыццё свабоду і дэмакратыю.

Фашызм граміць спрадвечныя культурныя традыцыі, робіць ідэалам казарму. Магутны рух уперад нашай сацыялістычнай дзяржавы асветлен благаслаўляючымі праменнямі светачаў мінулага; свабодалюб'е, якое натхняла творчасць геніяльнейшага рускага паэта, блізка і дорага нам.

У барацьбе супроць феадалізма і царквы буржуазія абудзіла пачуцце асобы; у гэтым—адна з рыс прагрэсіўнасці ўзыходзячага класа буржуазіі. Але буржуазія змагалася за росквіт асобы толькі для меншасці.

Цяпер фашызм адкрыта прапаведуе для мас адмаўленне сваёй асобы ў імя волі «правадыра»: навошта немцу або італьянцу думаць, калі за яго думаюць Гітлер і Мусаліні? Гэта патрэбна фашызму, таму, што рыхтаваць масы на забой можна толькі пры ўмове сляпога паслушэнства, праз укараненне абязлічваючай, палачнай дысцыпліны.

Комуністы бачаць заруку сваіх поспехаў у свядомай ініцыятыўнай дзейнасці кожнага працоўнага. Комунізм будзіць свядомасць асобы і асабістай годнасці ў мільённых народных масах. Ліквідацыя палітычнага гнёту, ліквідацыя эксплаататарскіх класаў стварае ўмовы свабоднага росквіту асобы кожнага працоўнага. Геній Пушкіна і сёння дапамагае нам развіваць у людзях усведамленне каштоўнасці сваей асобы і пачуцце ўласнай годнасці.

У сацыялістычным грамадстве створаны ўмовы гармоніі асобы паслушэнства, праз укараненне абязлічваючай, палачнай дысцыпліны. і грамадства.

> «...Гэта грамадства,—тлумачыў таварыш Сталін пану Рой Говарду, мы пабудавалі не для ўшчамлення асабістай свабоды, а для таго, каб чалавечая асоба адчувала сябе сапраўды свабоднай. Мы пабудавалі яго дзеля сапраўднай асабістай свабоды, свабоды без двукоссяў. Мне трудна ўявіць сабе, якая можа быць «асабістая свабода» у беспрацоўнага, які ходзіць галодным і не знаходзіць прымянення сваёй працы. Сапраўдная свабода ёсць толькі там, дзе знішчана эксплаатацыя, дзе няма прыгнечання адных людзей другімі, дзе няма беспрацоўя і жабрацтва, дзе чалавек не дрыжыць за тое, што заўтра можа страціць работу, жыллё, хлеб. Толькі ў такім грамадстве магчыма сапраўдная, а не папяровая, асабістая і ўсякая іншая свабода» *).

Фашызм нясе з сабою культурнае здзічанне, пагарду к чалавеку, спрабуе ўваскрасіць самыя змрочныя часы сярэдневякоўя. Фашыстам, іх крывавым сабакам трацкістам і правым рэстаўратарам капіталізма, шкоднікам, забойцам —чужды здаровы і аздараўляючы, па-

*) **Ленін і Сталін.** Зборнік твораў да вывучэння гісторыі ВКП(б). Т. III, стар. 666. Партвыд. 1936.

водле выражэння Горкага, геній Пушкіна. Толькі комунізм, толькі марксізм-ленінізм беражна адносіцца да культурнай спадчыны мінулага. Знішчаючы ворагаў народу, ворагаў партыі, мы ствараем такія ўмовы, пры якіх на справе, практычна трыумфуе соцыялістычны гуманізм. Аптымізм, імкненне да радасці, да шчасця аказваюцца ўжо не марай, а рэальным удзелам народаў СССР. Іменна таму жыццё-ўцвярджаючая творчасць Пушкіна набывае новую прыцягальную сілу для совецкіх чытачоў.

Ленін пісаў у артыкуле «Аб нацыянальнай гордасці вялікаросаў»:

> «Ці чужда нам, вялікарускім свядомым пролетарыям, пачуцце нацыянальнай гордасці? Вядома, не! Мы любім сваю мову і сваю радзіму, мы больш усяго працуем над тым, каб яе працоўныя масы (г. зн. $^{9}/_{10}$ яе насельніцтва) узняць да свядомага жыцця дэмакратаў і соцыялістаў. Нам найбольш балюча бачыць і адчуваць, якім насіллям, гнёту і здзекам падвяргаюць нашу цудоўную радзіму царскія каты, дваране і капіталісты. Мы ганарымся тым, што гэтыя насіллі выклікалі адпор з нашага асяроддзя, з асяроддзя вялікарусаў, што гэта асяроддзе высунула Радзішчэва, дзекабрыстаў, рэволюцыянераў-разначынцаў 70-х гадоў, што вялікарускі рабочы клас стварыў у 1905 годзе магутную рэволюцыйную партыю мас, што вялікарускі мужык пачаў у той-жа час станавіцца дэмакратам, пачаў звяргаць папа і памешчыка» *).

Гэтыя выдатныя словы Леніна могуць быць з поўным правам прыменены да Пушкіна, найвялікшага пісьменніка рускага народу. Мы любім сваю мову; мы ганарымся Пушкіным, які канчаткова сфармаваў яе. Мы ганарымся тым, што з асяроддзя рускага народу вышлі Радзішчэў і дзекабрысты; мы ганарымся Пушкіным за тое, што ён услед Радзішчэву ваславіў свабоду, што яго вершы служылі гімнамі і пракламацыямі для рэволюцыйнага руху дзекабрыстаў. Мы ганарымся тым, што Пушкін не мог прымірыцца з нязносным становішчам прыгоннага мужыка. Пушкін—рускі нацыянальны паэт. Яго творчасць і яго жыццё—адно з найярчэйшых абвяржэнняў бухарынскага контррэволюцыйнага паклепу на рускі народ як на суцэльных Абломавых, і на рускую гісторыю як на суцэльную абломаўшчыну.

У творчасці Пушкіна выяўляецца выдатная здольнасць глыбока і спачувальна ўнікаць у жыццё іншых народаў, пераўвасабляцца ў яго вобразы. Гэту асаблівасць пушкінскага генія першы адзначыў Белінскі ў сваіх выдатных артыкулах аб творчасці паэта. Пра гэтыя рысы Пушкіна гаварыў Дастаеўскі ў сваёй вядомай прамове аб паэце. Як правільна адзначыў яшчэ Белінскі, і гэта асаблівасць Пушкіна карэніцца ў рускім народным нацыянальным характары.

Творчасць Пушкіна з'яўляецца адным з красамоўнейшых доваадаў гэтага палажэння. У гэтым-жа заключаецца адна з прычын, чаму паэзія Пушкіна—гэта каштоўны ўклад рускага народу ў скарбніцу сусветнай літаратуры і сусветнай культуры.

Фашызм хавае ўсю мінулую культуру, імкнецца ўкінуць свет у новае сярэдневякоўе.

Марксізм-ленінізм вучыць беражным адносінам да культурнай спадчыны. Ленін пісаў, што нельга быць комуністам без засваення

*) В. І. Ленін. Тв. Т. XVIII, стар. 81.

культуры, створанай усім мінулым развіццём чалавецтва. Маркс і Энгельс высока шанавалі творы Шэкспіра, Гетэ, Бальзака, Гейне і іншых вялікіх класікаў. Энгельс, вывучаючы рускую мову, перапісвау у 1851—1852 гадах у свае сшыткі радкі «Евгения Онегина».

Класікі марксізма-ленінізма вучаць нас адносіцца да мастацкага наследдзя мінулага не як да мёртвых музейных экспанатау; узоры беражных і жывых адносін да класічнай мастацкай літаратуры даюць Ленін і Сталін. З якім здзіўляючым майстэрствам таварыш Сталін у сваім дакладзе аб новай совецкай Канстытуцыі звярнуў жала сатыры Гогаля і Шчэдрына супроць капіталістычнага свету, супроць фашызма!

З найвялікшай беражнасцю адносіцца партыя Леніна—Сталіна да тых мастацкіх каштоўнасцей, якія заключаны ў творах Пушкіна. Ніколі да Вялікай Окцябрскай соцыялістычнай рэволюцыі юбілей Пушкіна не мог-бы набыць такі ўсенародны характар. Самадзяржаўе і прыгонніцкая знаць пагубілі Пушкіна. Ліберальная буржуазія спрабавала абкарнаць Пушкіна, схаваць ад народу яго свабодалюбства, яго атэізм, яго дэмакратычныя тэндэнцыі. Сапраўднага Пушкіна свет пазнаў толькі пры совецкай уладзе. Ніколі яшчэ творы Пушкіна не чыталіся з такой прагавітасцю, як у наш час.

За адзін 1936 год выдана 10,8 мільёна экземпляраў кніг Пушкіна і аб Пушкіне—лічба нечуваная не толькі для старой Расіі, але і для любой краіны капіталістычнага свету. Усенародная цікавасць да творчасці Пушкіна—вынік і сведчанне агромнага культурнага росту нашай краіны, вызваленай ад гнёту эксплаатацыі.

**«Большевик»**

І. Байнёў

Дырэктар Інстытута савправа

# Сталінская Канстытуцыя і совецкая жанчына

Вялікая Окцябрская рэволюцыя ўстанавіла палітычнае роўнаправе жанчыны з мужчынай у Саюзе Совецкіх Социялістычных Рэспублік. Не толькі ў старой царскай Расіі, але і ў так званых «дэмакратычных» буржуазных краінах Францыі, Швейцарыі і іншых жанчына не карыстаецца палітычнымі правамі нароўні з мужчынай, не гаворачы ўжо аб Германіі і ей падобных краінах, дзе фашызм прынізіў жанчыну, ператварыўшы яе у хатнюю гаспадыню, у бясправную і пакорлівы аб'ект эксплаатацыі.

Акрамя палітычнага роўнаправя, перамога Окцябрскай социялістычнай рэволюцыі забяспечыла совецкай жанчыне поўнае роўнаправе ў гаспадарчым і сямейным жыцці. Совецкая ўлада знішчыла усе царскія буржуазныя законы, якія прыніжалі і прыгняталі жанчыну.

У «Вялікім пачыне» Ленін пісаў:

> «Ні адна дэмакратычная партыя ў свеце ні ў адной з найбольш перадавых буржуазных рэспублік за дзесяткі год не зрабіла, у гэтых адносінах, і сотай долі таго, што мы зрабілі за першы-ж год нашай улады. Мы не пакінулі ў поўным сэнсе слова каменя на камені з тых подлых законаў аб няроўнаправі жанчыны, аб сцясненнях разводу, аб гнусных фармальнасцях, што яго абстаўляюць, аб непрызнанні пазашлюбных дзяцей, аб розыску іх бацькоў і т. п.,—законаў, рэшткі якіх шматлікі ва ўсіх цывілізаваных краінах, к ганьбе буржуазіі і капіталізма. Мы маем тысячу раз права ганарыцца тым, што мы зрабілі ў гэтай галіне» *).

Совецкая жанчына разам з мужчынай з самага пачатку пролетарскай рэволюцыі прымала актыўнейшы ўдзел у барацьбе на фронце і у тылу за заваёву і ўмацаванне дыктатуры пролетарыята. Узнімаючыся са ступенькі на ступеньку, совецкая жанчына расла ў сваім развіцці, як роўнаправны ўдзельнік социялістычнай будоўлі ў краіне дыктатуры рабочага класа.

У міжнародны дзень работніцы 8 сакавіка 1921 г. Ленін пісаў:

> «... Уцягнуць у палітыку масы нельга без таго, каб не ўцягнуць у палітыку жанчын. Бо жаночая палова роду чалавечага пры капіталізме прыгнечана ўдвая».

*) Ленін, т. XXIV, стар 343.

«... Асабліва гнусная, подлая, ліцамерная няроўнасць у шлюбным і сямейным праве, няроўнасць у адносінах да дзіцяці знішчана Совецкай уладай поўнасцю.

Гэта першы толькі крок да вызвалення жанчыны.

Другі і галоўны крок—адмена прыватнай уласнасці на зямлю, фабрыкі, заводы. Гэтым і толькі гэтым адчыняецца шлях для поўнага і сапраўднага вызвалення жанчыны, вызваленьня яе «ад хатняга рабства» шляхам пераходу ад дробнай адзіночнай хатняй гаспадаркі да буйнай абагуленай» *).

Мінула 19 год Вялікай пролетарскай рэволюцыі. Тэрмін невялікі. Але ў совецкай краіне пад кіраўніцтвам партыі і генія чалавецтва таварыша Сталіна пабудавана ужо першая фаза комунізма—соцыялістычнае грамадства, якое не ведае эксплаатацыі чалавека чалавекам.

Пад мудрым кіраўніцтвам таварыша Сталіна комуністычная партыя забяспечыла ажыццяўленне плана індустрыялізацыі краіны і на яго аснове—пераводу сельскай гаспадаркі на рэйкі соцыялізма. За дзве сталінскія пяцігодкі ў нашай краіне створана магутная індустрыяльная тэхніка. Наша краіна пакрыта зараз тысячамі новых прадпрыемстваў, узброеных сучаснаю перадавою тэхнікай.

Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік стаў перадавой індустрыяльнай краінай з самай буйнай у свеце механізаванай і калектывізаванай сельскай гаспадаркай.

Пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна партыя забяспечыла небывалы эканамічны і культурны рост, поўную эканамічную незалежнасць нашай краіны ад капіталістычнага свету.

Трыумфам ленінізма з'яўляецца Сталінская Канстытуцыя, якая замацавала тое, што краіна соцыялізма заваявала пад ленінскім і сталінскім кіраўніцтвам. У першым артыкуле гэтага гістарычнага дакумента запісаны залатыя словы:

«Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік ёсць соцыялістычная дзяржава рабочых і сялян».

Сталінская Канстытуцыя—яркі довад таго, што толькі комуністычная партыя, як авангард рабочага класа, з'яўляецца адзінай партыяй, якая здольна забяспечыць перамогу эксплаатуемых мас над сваімі эксплаататарамі, што толькі комуністычная партыя, і ніякая іншая, забяспечыць перамогу пролетарскай рэволюцыі і перамогу соцыялізма над капіталізмам ва усім свеце.

Пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі працоўныя масы вялікага Совецкага Саюза за 19 год упартай барацьбы здолелі ліквідаваць клас эксплаататараў і пабудаваць соцыялізм у сваёй краіне.

«Не стала класа капіталістаў у галіне прамысловасці. Не стала класа кулакоў у галіне сельскай гаспадаркі. Не стала купцоў і спекулянтаў у галіне тавараабароту. Усе эксплаататарскія класы аказаліся, такім чынам, ліквідаванымі».

* * *

Буйная індустрыя і соцыялістычная сельская гаспадарка змянілі твар совецкай жанчыны. Жанчына-работніца, жанчына-калгасніца нароўні з мужчынай вылучае са сваіго асяроддзя перадавых стаханаўцаў. Тт Дземчэнка, Ангеліна, Вінаградавы Дуся і Маруся, Одзінцова

*) Ленін, т. XXVI, стар. 193—194.

і многія іншыя героі працы з'яўляюцца выключнымі барацьбітамі за новае, шчаслівае жыццё. Іх ведае ўся наша соцыялістычная совецкая краіна.

На прыёме калгасніц-ударніц у лістападзе 1935 г. таварыш Сталін гаварыў:

> «У нас не бывала раней такіх жанчын. Мне вось 56 год ужо, бачыў віды, бачыў дастаткова працоўных мужчын і жанчын. Але такіх жанчын я не сустракаў. Гэта зусім новыя людзі. Толькі свабодная праца, толькі калгасная праца магла парадзіць такіх герояў працы ў вёсцы.
>
> Такіх жанчын не бывала і не магло быць у старыя часы».

Ва ўсіх галінах дзяржаўнага, грамадскага, гаспадарчага і палітычнага жыцця наша краіна мае тысячы герояў соцыялістычнай працы. Увесь Совецкі Саюз ведае імёны выдатных удзельніц аўтапрабегу, якія за 45 хадавых дзён пакрылі 10.020 кілометраў. 15 удзельніц прабегу з 45 з'яўляюцца сямейнымі і маюць дзяцей, 11—члены і кандыдаты партыі, 7 комсамолак, астатнія беспартыйныя.

Гэта выдатная плеяда выхаванак сталінскай эпохі паказала новыя здольнасці совецкай жанчыны. 1 кастрычніка 1936 года ўдзельніцы большэвіцкага аўтапрабегу пісалі таварышу Сталіну: «Мы праехалі на аўтамабілях амаль усю краіну. Мы бачылі, як расцвітаюць землі, некалі пустынныя і бясплодныя. Гарады новаўзніклыя і гарады, якія расшырыліся і змянілі свае аблічча, радасна сустракалі нас. І усюды, дзе-б мы ні з'яўляліся, мы бачылі шчаслівых людзей. На палях, у вёсках, аулах, у горных далінах, у пушчах усюды совецкі працоўны народ з удзячнасцю і любоўю вымаўляў Ваша імя, бо пад Вашым кіраўніцтвам расцвітае шчаслівае жыццё ў краіне, павялічваюцца нашы багацці, мацнее наша упэўненасць у новых перамогах. Тое, што мы зрабілі, пад сілу любой жанчыне Совецкага Саюза. У нашай краіне жанчыны свабодныя і сільныя. Перад намі адчынены усе дарогі. Совецкая жанчына поўнапраўная грамадзянка сваей вялікай радзімы, гордая, свабодная, смелая, непахісная у барацьбе. Гэтыя якасці выхоўваеце Вы. І Вам, вялікі, родны Сталін, мы абавязаны нашай перамогай».

Выхаваная сталінскай эпохай, совецкая жанчына расце, развіваецца, вызваляецца ад усякай немачы, узгадванай праклятым мінулым. Жанчыны фабрык і заводаў, калгасных і соўгасных палёў штодзенна рапартуюць лепшаму другу чалавецтва таварышу Сталіну аб сваіх дасягненнях.

Брыгадзір калгаса імя Дзержынскага, Калужскага раёна, Маскоўскай вобласці, комсамолка Клава **Епіхіна** увосень 1936 года пісала: «Я шчаслівая паведаміць Вам, дарагі Іосіф Вісарыёнавіч, што свае словы стрымала і абавязацельства перавыканала: на маім участку на кожным гектары я ўбрала 718 цэнт. бульбы, а на рэкордным участку я ўбрала бульбы 810 цэнт. з гектара».

Звеннявая ільнаводчага калгаса «Красный колесник», Калінінскай вобласці, Чырвонахолмскага раёна, **Малякова** Харыціна Антонаўна піша: «Я сабрала ільнавалакна з 1,15 га; апрацавала і здала дзяржаве 12 цэнт. 2 кг. 800 гр. доўгага ільнавалакна ў сярэднім № 20».

Даярка племяннога соўгаса «Мышчево», Сычаўскага раёна, Заходняй вобласці, ордэнаноска **Канюценкава А.** арганізавала догляд за каровамі і дабілася ўдою малака па 6000 літраў у год.

Звеннявая калгаса імя Касіора, Кіеўскай вобласці, Вяліка-Палавец-

кага раёна, тав. **Ярэменка** Т. сабрала цукровых буракоў звыш 1.200 цэнт. з га. Тысячніцы бурачных палёў калгаса «12 лет Окцября», Трасцянскага раёна, Вінніцкай вобласці, звеннявая Ефрасіння Сідарчук, Александра Заваротня, калгасніцы Марыя Горбань, Ефрасіння Кравец, Марыя Басароб, Параска Пастушэнка, Маланка Нікіцёнак, Палажка Орышак, Еўдоха Орышак 29 кастрычніка 1936 года рапартавалі таварышу Сталіну:

«Спяшым падзяліцца з Вамі, дарагі Іосіф Вісарыёнавіч, нашай вялікай радасцю: учора мы закончылі копку цукровых буракоў на сваіх дзялянках. Шчаслівы паведаміць Вам, што, не гледзячы на цяжкія ўмовы надвор'я, мы дабіліся рэкорднага сталінскага ураджаю. Мы здалі на Обадоўскі цукровы завод па звяну Ефрасінні Сідарчук з плошчы 1,36 га 1592 цэнтнеры буракоў, што складае 1.170 цэнтнераў з 1 га, па звяну Александры Заваротні з плошчы 1,70 га убралі—1.920 цэнтнераў, што складае 1129 цэнтнераў з гектара».

* * *

Надзвычайны XII З'езд Советаў зацвердзіў Канстытуцыю Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі—Канстытуцыю росквіту і радасці беларускага народу. Яна, як і Сталінская Канстытуцыя Саюза ССР, з'яўляецца Канстытуцыяй перамогі соцыялізма. Змест Канстытуцыі БССР цалкам і поўнасцю выходзіць з Канстытуцыі СССР, творцам якой з'яўляецца вялікі геній чалавецтва, арганізатар соцыялістычных перамог таварыш Сталін.

Комуністычная партыя і яе кіраўнікі Ленін і Сталін прывялі беларускі народ к соцыяльнаму і нацыянальнаму вызваленню. Беларускі народ за шмат вякоў свайго існавання ўпершыню пасля вялікай Окцябрскай рэволюцыі атрымаў сваю дзяржаўнасць. Стварэнне Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі, як і многіх іншых нацыянальных рэспублік і абласцей Совецкага Саюза, ёсць вынік ажыццяўлення ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі. Ленінска-сталінская нацыянальная палітыка перамагла. Беларусь з былой эканамічна і культурна адсталай царскай калоніі ператварылася ў квітнеючую Совецкую Соцыялістычную Рэспубліку.

Усе народы і нацыянальнасці, насяляючыя тэрыторыю БССР, разам з усімі народамі Совецкага Саюза ў дружнай брацкай сям'і перапоўнены радасцю і гордасцю за сваё шчаслівае і радаснае жыццё, створанае пад мудрым кіраўніцтвам таварыша Сталіна. Жанчыны Совецкай Беларусі, як і ўсяго Саюза ССР, нароўні з мужчынамі карыстаюцца роўнымі правамі ў палітычным і гаспадарчым жыцці Рэспублікі. З беларускіх жанчын КП(б)Б выхавала нямала здольных кадраў, якія працуюць на адказнейшых участках кіравання дзяржавай. Так, напрыклад, членамі сельсоветаў і райвыканкомаў з'яўляюцца 12 910 жанчын, старшынямі сельсоветаў —106 жанчын. 17.109 жанчын працуюць настаўніцамі, 558 навуковымі работнікамі, 1550 урачамі. Нямала жанчын займаюць рад адказных пастоў на розных участках соцыялістычнага будаўніцтва.

Беларуская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка таксама вылучыла з асяроддзя жанчын новых знатных людзей стаханаўскай працы ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі. **Гурыновіч** Ольга Сцепанаўна —бабруйская швейная ф-ка імя Дзержынскага, **Збужынская** Марыя Казіміраўна—брыгадзір Асінторфа, **Райхман** Софья Абрамаўна—го-

мельская швейная фабрыка «Комінтэрн», **Лёвачкіна** Анна Афанасьеўна—газоушчыца гомельскага шклозавода імя Сталіна, **Хромая** Феня—машыніст барысаўскай запалкавай ф-кі «Пролетарская перамога», **Базылёва** Зінаіда Ігнатава- соугас «Брылева», **Шалко**—соугас імя Свердлова, Дзержынскага раёна, і інш. вядомы, як гераіні высокай прадукцыйнасці працы, як перадавыя барацьбіты за новае, радаснае жыццё.

Даярка-стаханаўка калгаса «Чырвоная Бярэзіна», Бабруйскага раёна, тав. Чарнецкая піша: «У нашым калгасе 100 дойных кароў. Мы далі абяцанне атрымаць ад кожнай каровы па 2.100 літраў малака ў год і ўжо за 9 месяцаў атрымалі па 1800 літрау у сярэднім. Карова «Белка» за 9 месяцаў дала 6.116,5 літра, «Бумка» -2.826 літрау. «Царыца»—2572 літры, «Швейцарка»—2445 літраў. На сваіх дасягненнях мы не спыняемся. Нас усіх 11 даярак. Я даю абяцанне нашаму дарагому, любімаму правадыру таварышу Сталіну зрабіць усіх даярак калгаса стаханаўкамі».

У калгасе імя Дзержынскага, Чаўскага раёна, стаханаўка **Карнеева** Фёкла Клімаўна на трапальнай машыне Антонава выпрацоўвала 118 кг. ільнавалакна № 18.

Тав. **Таболіна З.**—стаханаўка мінскай фабрыкі «Комунарка» дала рэкордныя паказчыкі прадукцыйнасці працы, выконваючы норму на 517%. Тав. **Цыгельніцкая М.** давяла норму выпрацоўкі да 200%. тав. **Білейчык** А. выпрацоўвала норму на 446%. Тав. **Лютэрман** Р. давяла выпрацоўку да 450 % нормы.

У час абмеркавання праекта Сталінскай Канстытуцыі жанчыны праявілі яшчэ большую актыўнасць як на вытворчасці, так і на кіруючай гаспадарчай, культурнай, савецкай рабоце.

Калгасніца **Кузьмянкова** Марыя (калгас «Перамога», Дубровенскага раёна, Расткоўскага сельсовета) у гонар новай Канстытуцыі абавязалася паказаць самую высокую ў сваім калгасе прадукцыйнасць працы. Жыта пачала жаць з 0,20 га і ўжо на трэці дзень давяла норму да 0,60 га. Норму ручной тропкі лёну пачала з 0,15 кг., а праз дэкаду давала звыш 40 кг. у дзень. У калгасе імя Сталіна **Нудная** Аўгіння давала у дзень 60 кг. трапанага лёну. **Халько** Марыя 59 кг. Гэтыя калгасніцы зараблялі ў дзень па 49,5 кг. зярна, 2,88 цэнт. бульбы і 70 руб. 53 кап. грашыма.

У нашай рэспубліцы тысячы жанчын працуюць на кіруючай рабоце, з'яўляючца членамі гарадскіх, раённых, сельскіх советаў.

Член пасялковага совета Аршанскага раёна Шпак Аграфена Елісееўна ў час сваёй справаздачы заявіла: «Тры гады я працавала дэпутатам аршанскага горсовета, зараз працую ў пасялковым совеце ў секцыі аховы здароўя, дзе правяла вялікую работу па будаўніцтву дзіцячых ясляў. Толькі цяпер, 50-гадовая старуха, я даведалася, што такое маладосць. Зараз хочацца жыць і працаваць».

Дэпутатаў горсовета бабруйскай швейнай фабрыкі імя Дзержынскага тт. Мельцэр, Беселеву, Терахаву, Максімчук, Гельфанд ведае ўвесь Бабруйскі раён як лепшых стаханавак і як здольных дзяржаўных работнікаў.

Старшыня Крымчанскага сельсовета, Брагінскага раёна, комсамолка Лена **Ціхановіч** выдатна кіруе сельсоветам, за што некалькі раз прэміравана і заваявала пераходны чырвоны сцяг. Уцягваючы шырокія калгасныя масы ў кіраўніцтва дзяржавай, яна скалациіла вакол сельсовета моцны актыў.

Нашы перадавыя беларускія жанчыны прымалі непасрэдны ўдзел у зацвярджэнні Сталінскай Канстытуцыі на гістарычным Надзвычайным VIII Усесаюзным З'ездзе Советаў.

Тав. Пруднікава ў сваім дзенніку запісала: «Я вырасла на цэлую галаву. Даклад таварыша Сталіна -гэта універсітэт, дзе можна навучыцца, як трэба працаваць. Як не любіць нашага дарагога настаўніка, калі ён дае ўсё. Я была пакасўкай, а стала педагогам. Зараз я -дэлегат Надзвычайнага VIII З'езда Советаў і зацвярджаю Сталінскую Канстытуцыю. Пасля З'езда я буду старацца аўладаць вышэйшым майстэрствам сваёй працы, буду дапамагаць партыі выхоўваць адукаваных, дысцыплінаваных, моцных воляй і смелых духам, поўнацэнных грамадзян соцыялістычнага грамадства».

Дэлегат Надзвычайнага XII Усебеларускага з'езда советаў 50-гадовая стаханаўка-брыгадзір Арына Іванаўна **Курбанава** расказвае: «Таварыш Сталін мне не толькі дапамог, а проста-такі выратаваў. Нарадзілася я ў кулацкай сям'і, бо бацькі мае не мелі хаты. Увесь свой век жабрачыла. Толькі пры совецкай уладзе зажыла шчасліва. Дзеці мае выхаваныя. Адна дачка- настаўніца, абрана дэлегаткай З'езда, другая дачка канчае педтэхнікум. Адзін сын лётчык, другі тэхнік. Яшчэ маю леташні хлеб, а мне ў дом вязуць ужо новы хлеб. Я галасую за Сталінскую Канстытуцыю».

Ордэнаноска **Еўсюціна** В. расказвала, што такія людзі, як яна, пры царызме гінулі. Выхаванка дзіцячага дому, яна зрабілася гераіняй, гаспадыняй сваёй роднай краіны.

Ордэнаноска **Кісялёва** А. са швейнай фабрыкі «Окцябр» нарадзілася ў 1912 годзе, а ўжо мае рад гераічных учынкаў. Яна прымала ўдзел у вядомым пераходзе у процівагазах і процііпрытных касцюмах па маршруту Менск--Масква, у сустрэчы пяці гарадоў па ваенна-хімічнай справе ў Кіеве ўзяла ўсесаюзны рэкорд па пераносцы ў процівагазе раненага.

Таленавітыя жанчыны вылучаюцца і на іншыя ўчасткі соцыялістычнага будаўніцтва. Клопатамі таварыша Сталіна аб выхаванні жанчын Совецкай Беларусі ўзніклі кадры харавых спявачак, танцорак, вышывальшчыц. Выдатныя узоры мастацкай народнай творчасці паказваюць ткачыхі—калгасніцы Слуцкай акругі, Чачэрскага, Веткаўскага, Дубровенскага, Лезненскага і іншых раёнаў. У Бабруйскім раёне працуюць выдатныя калгасніцы-вышывальшчыцы: Насця Лукашэвіч, Валя Цымбалат, Старасціна, Аўгіння Лепяшонак, Насця Капусціна, Ольга П'яных. Асабліва праявілі сябе, як высокія майстры мастацкага вышывання, Ольга П'яных, якая вышыла кавёр з гербам Саюза ССР, і Старасціна, якая вышыла шоўкам партрэт таварыша Сталіна.

Аб росце палітычнай актыўнасці совецкай жанчыны ярка сведчаць лічбовыя даныя дэпутацкага складу з'ездаў советаў

Калі ў 1924 годзе на II з'ездзе советаў СССР было 58 жанчын-дэпутатаў, то ў 1936 годзе на VIII з'езд советаў СССР з'ехалася 419 жанчын. Сярод іх: калгасніц—45%, работніц прамысловасці і транспарту—30%, партыйна-совецкіх і гаспадарчых работнікаў—25%.

Жанчынамі прадстаўлены былі на VIII з'ездзе 63 розныя прафесіі вытворчасці: слесары, фармоўшчыцы, рэвальверичицы, прасоўшчыцы, фрэзероўшчыцы, матарысткі, токары, свідравальшчыцы, ліцейшчыцы, батарэзы, узрыўнічыцы, ляебёдчыцы на шахтах, вятэршчыцы, фарбавальшчыцы, закройшчыцы, краўчыхі, набіўшчыцы, га-

лошніцы, стрэлачніцы, машыністы паравозаў, машыністы электравозаў, дыспетчары, укладчыцы рыбы і т. п..

Сярод 177 калгасніц-дэпутатак З'езда было 11 камбайнерак, 9 трактарыстак, 6 трактарных брыгадзіраў, 9 старшынь калгасаў, 8 загадчыкаў ферм, 10 брыгадзіраў, 2 ільнатрапальшчыцы, 67 звеннявых, 38 даярак, цялятніц і свінарак, 17 работніц па бавоўне, табаку і іншых тэхнічных культурах.

Вялікая роля жанчыны і ў галіне разумовай працы. Сярод 100 дэпутатак З'езда было 27 старшынь сельсаветаў, 20 старшынь раённых выканаўчых камітэтаў, 5 дырэктароў прадпрыемстваў і начальнікаў цэхаў, 18 настаўніц, 1 інжынер, 3 летчыцы, 2 артысткі, 7 работніц рэспубліканскіх, абласных і краявых совецкіх органаў, 12 партыйных і прафесіянальных работнікаў. 117 жанчын удзельніц З'езда ўзнагароджаны ордэнамі СССР.

Гэтыя лічбы гавораць аб росквіце здольнасцей, аб велічы совецкай жанчыны. Аб сіле і магутнасці совецкай жанчыны сведчаць нарады жон камандзіраў цяжкай індустрыі, баявых падруг камандзіраў і палітработнікаў Чырвонай арміі.

Жанчыны БССР прымаюць актыўны ўдзел ва ўмацаванні абароназдольнасці і ахове граніц сваёй социялістычнай радзімы. Калгасніца калгаса «Чырвоны пагранічнік», Пухавіцкага сельсовета, Янкоўская Марыя Людвігаўна з 1934 года асабіста затрымала 13 парушальнікаў граніцы. За актыўную дапамогу пагранічнай ахове яна ўзнагароджана ордэнам «Знак почета». У нас ёсць тысячы жанчын падобных Янкоўскай, і колькасць іх з кожным днём павялічваецца.

* * *

У Канстытуцыі социялістычнай дзяржавы залатымі літарамі ўпісана:

> «Жанчыне ў СССР прадастаўляюцца роўныя правы з мужчынай ва ўсіх галінах гаспадарчага, дзяржаўнага, культурнага і грамадска-палітычнага жыцця.
>
> Магчымасць ажыццяўлення гэтых правоў жанчын забяспечваецца прадастаўленнем жанчыне роўнага з мужчынай права на працу, аплату працы, адпачынак, социяльнае страхаванне і асвету, дзяржаўнай аховай інтарэсаў маці і дзіцяці, прадастаўленнем жанчыне пры цяжарнасці водпускаў з захаваннем утрымання, шырокай сеткі радзільных дамоў, дзіцячых ясляў і садоў».

У якой іншай краіне мае жанчына такія правы, такія клопаты, такую увагу да сям'і і дзяцей?

Цяжка ўспамінаць паднявольнае жыццё беларускай жанчыны ў часы праклятага царызма. Жанчына тады не мела не толькі ніякіх палітычных правоў, яна была няграматнай. У гарадах жанчыны у большасці заставаліся няграматнымі, а ва многіх вёсках і зусім не вучыліся. Пачынаючы з дзіцячага ўзросту, буржуазія трымала жанчыну ў цемры і невуцтве.

У ордэнаноснай Беларускай Совецкай Социялістычнай Рэспубліцы ў 1935—36 г. навучалася 946.508 чал., з якіх жанчын 451.484 чал., г. зн. 47,7%. Зараз у вышэйшай, сярэдняй і ніжэйшай школе навучаюцца мужчыны і жанчыны ў роўных суадносінах.

Совецкая Беларусь мае добра пабудаваную сістэму асветы нацыянальных меншасцей. Беларускія, рускія, яўрэйскія, польскія, украін-

скія, нямецкія, літоўскія, латышскія школы даюць магчымасць нават самым малым народнасцям нашай рэспублікі навучаць сваіх дзяцей на роднай мове. Гэта пацвярджае сілу ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі.

Як-жа жыве працоўная жанчына за граніцай? Якія правы прадаставіла жанчыне буржуазная «дэмакратычная» канстытуцыя ў гаспадарча-маемасных, сямейна-бытавых, дзяржаўных справах?

Возьмем старую буржуазную дэмакратычную рэспубліку—Злучаныя Штаты Амерыкі. Тут канстытуцыя была прынята яшчэ ў 1787 годзе. Аднак амерыканская жанчына да апошняга часу не мела роўнапраўя і толькі ў 1920 годзе ў выніку упартай барацьбы яна атрымала выбарчыя правы ў агульна-дзяржаўным маштабе. Але не ўсе жанчыны прыцягваюцца да кіраўніцтва палітычным жыццем краіны. Прыкладна, з 10 мільенаў жанчын у палітычным жыцці прымае ўдзел абмежаваная сотня.

Фармальна жанчына карыстаецца ўсімі правамі, а па сутнасці ніякімі. Адна настаўніца з штата Паўночная Караліна выдала уладам наступны дакумент: «Я абяцаю не выходзіць на вуліцу з маладым чалавекам, за выключэннем выпадкаў, калі гэта будзе выклікацца неабходнасцю стымуляваць работу нядзельнай школы. Я абяцаю не ўлюбіцца, не прымаць чыей-небудзь прапановы і не выходзіць замуж хоць-бы тайна». Амерыканская дзяўчына-педагог пазбаўлена магчымасці любіць і выходзіць замуж, бо іначай яна будзе пазбаўлена работы. Такі закон прымяняецца для жанчын у буржуазных краінах

Не большымі правамі карыстаецца жанчына і ў Англіі. Англійская буржуазія ў 1867 годзе ўпершыню дапусціла да выбараў рабочую арыстакратыю. У 1884 годзе былі дапушчаны да выбараў сельскагаспадарчыя рабочыя і гарадскія рабочыя кватэранаймальнікі. І толькі ў 1918—1928 гадах буржуазія пашла на ўступкі. Права голасу атрымала астатняе мужчынскае і жаночае насельніцтва старэй 21 года. Аднак права гэта прадастаўлена толькі тым, хто з'яўляецца «мужам або жонкай асобы, якая мае права быць унесенай у спіс у выніку кваліфікацыі па памяшканнях для дзелавых заняткаў». Так гаворыць акт 1928 года аб народным прадстаўніцтве (артыкул 1, параграф «в»). Толькі на гэтай падставе можна ўносіць кандыдатаў у выбарчы спіс. Гэта выбарчае права прадастаўляецца ў простых акругах. Але ёсць яшчэ так званыя універсітэцкія выбарчыя акругі, для якіх артыкул 2 указвае, што выбарчым правам карыстаецца жанчына, пры ўмове, што яна «дапушчана трымаць, або вытрымала экзамены на сканчэнне, і ў адпаведнасці з патрабаваннямі, прад'яўляемымі універсітэтам да жанчыны,—што яна пражывала такі час, які патрабуецца ад мужчыны для атрымання вучонай ступені».

Для ўсіх буржуазных дэмакратычных рэспублік характэрна не даваць выбарчага права жанчынам -большай палове насельніцтва. Буржуазія на працягу соцень год фанабэрылася сваёй рэвалюцыйнай дэмакратычнай настроенасцю. На ўсіх скрыжаваннях праз сваіх вестуноў крычала, што яна нясе чалавецтву свабоду слова, друку, сходаў, прамое, роўнае выбарчае права. А на справе гэтым правам карысталася толькі сама буржуазія: фабрыканты, памешчыкі, купцы, дваране.

У капіталістычных краінах жанчына жыве рабыняй. Яна выконвае функцыі роджаніцы, хатняй гаспадыні. У такім становішчы знаходзіцца не толькі жанчына-работніца, сялянка, але і жанчына інтэлігентнай працы. У 1936 годзе студэнтка варшаўскага юрыдычнага

інстытута 23-гадовая Галіна Влога пакончыла жыццё самагубствам. У пасмертным пісьме яна заяўляе: «Канчаю самагубствам, бо з цяжкім жыццём не магу больш змагацца. Мне не лёгка паміраць, але ў мяне няма ужо сіл. Я рабіла ўсё, што толькі магла, каб зарабіць на сваё існаванне. Я хапалася за любую сумленную работу. Але я бяссільна што-небудзь зрабіць, не гледзячы на тое, што я маладая, энергічная і даволі адукаваная. Апошняя мая просьба: калі доза атруты надта малая, каб мяне хутка забіць, малю—паскорце маю смерць».

Гэты ліст змясціла польская буржуазная газета «Кур'ер цодзенны» з дадаткам: «такіх няшчасных у нас многа». А газета «Работнік» прыводзіць хроніку самагубстваў, з якой даведваемся, што толькі за адзін дзень 3 жніўня 1936 г. пакончылі самагубствам: 20-гадовая работніца Яніна Кобас, 29-гадовая прачка Марыя Багдановіч, 36-гадовая хатняя гаспадыня Е. Есклоўская. І гэта не паасобныя, а масавыя выпадкі самагубства жанчын у фашысцкай Польшчы. За 1935 год, як піша газета «Час», пакончылі самагубствам 1653 жанчыны.

Фашысцкі рэжым голаду і галечы ў Германіі ўсе больш павялічвае колькасць сваіх афяр. Газета «Дэйчэ альгеймэйнэ цэйтунг» піша: «На Матэрштрасе № 2 была знойдзена мертвая сям'я Р., пражываўшая на чацвертым паверсе дваравога флігеля, 39-гадовы муж, 33-гадовая жонка і двое дзяцей, якія атруціліся газам. У пакінутым пісьме гаварылася, што муж і жонка па ўзаемнай згодзе парашылі памерці, бо не мелі работы і не маглі пракарміць сваіх дзяцей. Не спадзеючыся на дапамогу дзяржавы, яны вымушаны былі узяць з сабою на той свет сваіх двух малютак». Ланцугамі бяспраўя, жабрацтва і тэрору звязаны рукі працоўнай жанчыны ў фашысцкіх краінах.

Эканамічны ўціск, палітычнае бяспраўе, прыніжэнне чалавечай годнасці, рабскае становішча ў сям'і, падпарадкаванне і здзек у шлюбе — усе гэта праклятае мінулае з коранем вырвана і знішчана ў Совецкім Саюзе. Але ў капіталістычным свеце яшчэ нясуць гэты цяжар мільёны жанчын-работніц, жанчын-матак. У моры фальшы, хлусні, ашуканства задыхаецца так званая «свабодная жанчына» буржуазна-дэмакратычных краін.

Совецкая краіна забяспечвае правы жанчыны матар'яльнаю базай, канчаткова раскрепачае яе ў сям'і і быце.

Партыя і ўрад па ўказанню таварыша Сталіна праяўляе асаблівыя клопаты аб матцы і дзецях. Совецкі ўрад законам 27 чэрвеня 1936 года пастанавіў:

> «У мэтах палепшання матар'яльнага становішча роджаніц, як работніц, так і служачых, застрахаваных у органах сацыяльнага страхавання, павялічыць размер дапамогі, якая выдаецца са сродкаў дзяржаўнага сацыяльнага страхавання на набыцце неабходных прадметаў догляду за нованароджаным—з 32 руб. да 45 руб., на кармленне дзіцяці—з 5 руб. да 10 руб.».

Жанчынам-служачым і жанчынам-работніцам прадастаўляецца водпуск: 56 дзён да родаў і 56 дзён пасля родаў. За адмаўленне ад прыёму цяжарных жанчын на работу вінаватыя прыцягваюцца да судовай адказнасці. Маткам, якія маюць 6 дзяцей, пры нараджэнні кожнага наступнага выдаецца на працягу 5 год па 2000 руб. дзяржаўнай дапамогі ў год. Маткам, якія маюць 10 дзяцей, выдаецца пры нараджэнні кожнага наступнага дзіцяці па 5.000 руб. і з другога-ж года

дапамога ў 3.000 руб. на працягу 4 год. Грашовую дапамогу атрымліваюць і тыя жанчыны-маткі, якія да выдання закона мелі адпаведную колькасць дзяцей.

У Совецкім Саюзе сотні тысяч матак атрымалі і атрымліваюць дзяржаўную дапамогу. Акрамя непасрэднай грашовай дапамогі роджаніцам, на якую дзяржава адпускае штогод дзесяткі мільёнаў рублёў, да 1 студзеня 1939 года сетка дзіцячых ясляў пашыраецца на 900 000 ложкаў, адчыняцца 800 новых малочных кухань. Сетка дзіцячых садоў вырасце дадаткова на 2.100 000 месц, а па калгасах на 700.000 месц. Для гэтай работы ў 1936 годзе рыхтуецца 50.000 выхавальнікаў. Сетка радзільных дамоў пашыраецца на 11.000 ложкаў і 14.000 новых акушэрскіх пунктаў.

ЦК КП(б)Б і ўрад Беларусі разгарнулі велізарную работу па будаўніцтву новых акушэрскіх пунктаў, арганізацыі радзільных ложкаў, дзіцячых садоў, дзіцячых ясляў, малочных кухань. 10 лістапада 1936 года старшыня СНК БССР тав. Галадзед прыняў рад мнагадзетных матак, якім уручыў грашовую дапамогу. Дар'і Гаўрылавай 11.000 рублёў, Марыне Зенькоўвай 8.000 руб., Анне Акуневай 7.000 руб., Еўгеніі Бабковай, Фёкле Дабрыцкай, Анастасіі Ульянавай—па 6.000 руб., Казачэнка Агаце, Касюочэнка Аўдоцці, Багінскай Арыне, Вендравай Серафіме—па 4.000 руб. і Анне Козляк 2.000 рублёў.

Совецкая жанчына акружана сталінскім клопатам, што яшчэ больш узбройвае яе на новыя гераічныя справы, на барацьбу разам з мужчынамі за далейшыя перамогі соцыялізма, за культурнае, заможнае, радаснае жыццё.

Таварыш Сталін на VIII З'ездзе Советаў аб значэнні новай Канстытуцыі СССР сказаў:

> «Цяпер, калі мутная хваля фашызма аплёўвае соцыялістычны рух рабочага класа і змешвае з граззю дэмакратычныя імкненні лепшых людзей цывілізаванага свету, новая Канстытуцыя СССР будзе абвінаваўчым актам супроць фашызма, актам, які гаворыць аб тым, што соцыялізм і дэмакратыя непераможны. Новая Канстытуцыя СССР будзе маральнай дапамогай і рэальнай падмогай для ўсіх тых, хто вядзе цяпер барацьбу супроць фашысцкага варварства».

**М. Чаускі**

Заг. аддзелам культуры і прапаганды
Кагановіцкага райкома г. Менска

# Палітагітацыя—магутная зброя перавыхавання мас

На ўсерасійскай нарадзе палітпрасветработнікаў Ленін гаварыў:

> «Мы даб'емся ўсяго, што трэба, пераможам усе перашкоды, якія нам засталіся ад старога ладу і якія адразу адкінуць нельга, трэба перавыхаваць масы, а перавыхаваць іх можа толькі агітацыя і прапаганда» *).

Бальшэвіцкая агітацыя адыгрывала важнейшую ролю на ўсіх этапах сацыялістычнага будаўніцтва. Яна натхняла масы працоўных у барацьбе за пабудову сацыялізма, узнімала іх рэвалюцыйную палкасць, напаўняла сэрцы пякучай нянавісцю да ўсіх ворагаў народу, адтачвала астрыё большэвіцкай пільнасці.

Росквіт сацыялістычнага дэмакратызма, замацаванага Сталінскай Канстытуцыяй, яшчэ вышэй узнімае ролю палітычнай агітацыі у масах. Вялікі Сталін у сваім дакладзе аб праекце Канстытуцыі СССР падкрэсліў:

> «Калі народ сям-там і выбярэ варожых людзей, то гэта будзе азначаць, што наша агітацыйная работа пастаўлена з рук вон дрэнна, і мы ўпаўне заслужылі такую ганьбу, калі-ж наша агітацыйная работа будзе ісці па-большэвіцку, то народ не прапусціць варожых людзей у свае вярхоўныя органы. Значыць, трэба працаваць, а не хныкаць».

Гэтае мудрае ўказанне вялікага правадыра народаў СССР абавязвае нас узмацніць сваю увагу да палітычнай агітацыі. Партарганізацыі павінны ўмацаваць кадры агітатараў людзьмі праверанымі, граматнымі, здольнымі аўладаць вялікім майстэрствам агітацыі.

* *

У ажыццяўленне дырэктыў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б аб палепшанні палітагітацыі Кагановіцкі райком пачаў сваю работу па падбору і ўмацаванню кадраў агітатараў, якія раней не былі стала замацаванымі і часта вялі работу ад выпадку да выпадку. Пры дапамозе райкома партыйнымі камітэтамі расна прароблена работа па перагляду і падбору кадраў агітатараў, з якіх кожны зацвярджаўся рашэннямі парткома. У выніку нам удалося стварыць значную сталую групу кадраў агітацыйнай работы. Зараз ў раёне працуе 439 нізавых агітатараў,

*) Ленін, том XXV, стар. 455—456.

з якіх 282 комуністы, 127 комсамольцаў і 30 спачуваючых. 214 агітатараў вядуць сваю работу на вытворчасці і 132—у навучальных установах. Пераважная колькасць агітатараў—рабочыя (237 чал.). Па характару работы: 183 чал. знаходзяцца на вытворчасці, 132—студэнты, 65—на савецкай, 11—на партыйнай і 20—на гаспадарчай рабоце. Вышэйшую адукацыю маюць 26 чал., сярэднюю—168 і ніжэйшую—217 чал. Па палітычнай адукацыі: 48 скончыла комвузы, 33—партшколы, 52—курсы марксізма-ленінізма.

У савецкіх установах не ўсюды выдзелены сталыя кадры агітатараў. Гэта—буйнейшы недахоп нашай работы.

Асноўная група агітатараў мае ніжэйшую асвету і мае патрэбу ў расшырэнні палітычнага і агульнаадукацыйнага ўзроўню. Асноўнай формай дапамогі агітатарам сталі агіткалектывы. Яны створаны на ўсіх буйнейшых прадпрыемствах раёна і ужо нядрэнна працуюць. Агітатар фабрыкі імя Куйбышэва тав. Чэрчэс на нарадзе агітатараў адзначыў: «Наш агіткалектыў пачаў працаваць лепш. Партком энергічна ўзяўся за агітацыю. Сакратар парткома шмат разоў склікаў агітатараў на інструкцыйныя нарады, правеў рад гутарак па пытаннях Канстытуцыі. Ужо адчуваецца палітычны рост Чэрніна, Капелевіча, Гуртоўніка і іншых рабочых фабрыкі».

На фабрыцы імя Куйбышэва працуе агіткалектыў з 28 чалавек. Для агітатараў і чытчыкаў сіламі рэспубліканскага актыва быў арганізован па пытаннях Канстытуцыі і іншых тэмах рад інструкцыйных дакладаў і лекцый. Партком сістэматычна дапамагае росту агітатараў. Агітацыя ўвязваецца з практычнымі вытворчымі задачамі. 27 снежня на фабрыцы адбыўся добра падрыхтаваны партсход па пытанню пастаноўкі і паляпшэння агітацыі. Да сходу была праведзена асобная нарада з агітатарамі. У групах і цэхах для ўзаемаправеркі работы агітатараў было выдзелена 23 чалавекі.

На абутковай фабрыцы імя Кагановіча нядрэнна пастаўлена дапамога агітатарам. Партыйны камітэт сістэматычна заслухоўвае іх справаздачныя даклады. У снежні абмяркавалі пытанне аб пастаноўцы палітагітацыі ў закройным цэху, у студзені слухалі справаздачу тав. Шулькіна аб палітагітацыі у пашывачным цэху. Партком адзначыў вялікі зрух у справе разгортвання палітагітацыі ў пашывачным цэху і ўказаў, як падцягнуць адсталыя ўчасткі.

За апошні час значна палепшылася работа парткабінета фабрыкі Загадчык тав. Расоўскі арганізаваў для агітатараў кансультацыі і інструкцыйныя нарады для абмену вопытам. Многа дапамагае агітатарам добры падбор літаратуры, арганізацыя выставак-вітрын.

Пры правядзенні ўсеагульнага перапісу насельніцтва партком склікаў агульнафабрычную нараду агітатараў, даў ім метадычныя ўказанні для агітмасавай работы ў цэхах і забяспечыў патрэбнай літаратурай. Фабрычная шматтыражка змясціла спецыяльны артыкул аб перапісе. У выніку рабочыя добра усвядомілі агромнае значэнне усеагульнага перапісу.

У аснову ўсей агітацыйна-масавай работы на фабрыцы пакладзена вывучэнне Сталінскай Канстытуцыі. Яна стала адпраўным пунктам пры правядзенні кожнага масава-палітычнага мерапрыемства. Падзеі ў Іспаніі, пытанні міжнароднага становішча агітатары заўсёды ўвязваюць з тым ці іншым артыкулам Сталінскай Канстытуцыі. Агітатар 2 пашывачнага цэха тав. Фрыдлянд, праводзячы гутарку аб стано-

віцчы ў фашысцкай Германії, умела выкарыстаў артыкул 123 Канстытуцыі аб роўнаправі рас і нацыянальнасцей у СССР.

Пры штодзеннай неаслабнай дапамозе парткома і парткабінета значна вырас ідэйны ўзровень агітатараў. Агітатар закройнага цэха тав. Берэзін яшчэ год таму назад слаба адчуваў сябе ў радзе пытанняў агітацыйнай работы. Цяпер ён—адзін з лепшых агітатараў фабрыкі. Яго палітгутаркі заўсёды праходзяць вельмі жыва і даюць добрыя вынікі. Рэзка ўзнялі свой ідэйна-палітычны ўзровень агітатары тт. Бацвінік Х., Шулькін, Фрыдлянд, Капелевіч і інш.

Стварэнне агіткалектываў, устанаўленне адказнасці сакратароў парткомаў за іх работу садзейнічалі палепшанню ўсей агітацыйнай работы.

* * *

Безупынны рост палітычнай актыўнасці працоўных знаходзіць сваё выражэнне не толькі ва ўзмацненні іх барацьбы за высокія паказчыкі, за аўладанне новымі нормамі, за новыя рэкорды, але і ў павышэнні зацікаўленасці палітычным жыццем, у імкненні больш глыбока асэнсаць усе, што адбываецца ў краіне і за яе межамі.

Пачатак 1937 года адзначыўся новым магутным уздымам соцыялістычнага спаборніцтва. Натхнёныя новай Сталінскай Канстытуцыяй рабочыя не толькі выконваюць, але часта і перавыконваюць новыя нормы.

З першых-жа дзен студзеня агітатары прыступілі да растлумачвання задач новага гаспадарчага года. Яны расказвалі рабочым аб майстрах соцыялістычнай працы, шырока папулярызавалі прапанову ініцыятараў стаханаўскага руху укараніць на кожным прадпрыемстве комплекс стаханаўскіх метадаў работы шляхам шырокага абмену вопытам.

На скліканай райкомам нарадзе трыкутнікаў прадпрыемстваў было абмеркавана пытанне аб далейшым укараненні соцыялістычных метадаў працы. Паміж трыкутнікамі прадпрыемстваў Кагановіцкага і Сталінскага раёнаў быў заключан дагавор на соцыялістычнае спаборніцтва. У дагаворы прадугледжана разгортванне соцспаборніцтва як унутры прадпрыемстваў, так і між паасобнымі фабрыкамі, заводамі і арцелямі двух раёнаў. Мэта дагавора—ахапіць соцспаборніцтвам усіх рабочых і інжынерна-тэхнічных работнікаў. Тэкст дагавора быў зачытан у цэхах і аднадушна падтрыман усімі рабочымі.

Клопаты рабочых аб вытворчых справах, аб росце прадукцыйнасці працы не змяншаюць, а толькі павялічваюць іх зацікаўленасць з'явамі і падзеямі агульнапалітычнага жыцця. Даволі азнаеміцца з тымі пытаннямі, якія задаюць рабочыя агітатарам у час палітгутарак. Прывядзем некалькі тыповых пытанняў:

— У чым прычыны дэвальвацыі франка і як уплывае яна на эканамічнае і палітычнае жыццё Францыі?

— Дзеянні іспанскіх фашысцкіх мяцежнікаў пагражаюць інтарэсам Англіі і Францыі. Чаму-ж Лонданскі камітэт вядзе палітыку патурання інтэрвентам?

— Як у далейшым будзе праходзіць працэс ліквідацыі класавага адрознення ў СССР?

— У чым заключаюцца характэрныя рысы перажываемага намі апошняга этапу нэпа? і т. д. і т. д.

Ці трэба даводзіць, што ў сучасных умовах узрослай палітычнай актыўнасці мас патрэбна ўдзяліць выключную ўвагу павышэнню ідэйна-палітычнага ўзроўню агітатараў.

«Нашы агітатары і прапагандысты змогуць правільна, па-бальшэвіцку растлумачыць новую Канстытуцыю толькі пры ўмове, калі яны будуць звяртацца да скарбніцы марксізма-ленінізма—твораў Леніна і Сталіна і да нашай соцыялістычнай рэчаіснасці.

Цяпер асабліва нецярпімы ўсякія павярхоўнасць, лёгкасць замест сур'ёзнага і грунтоўнага растлумачэння. Цяпер ад прапагандыстаў і агітатараў настойліва патрабуецца, каб яны самі грунтоўна рыхтаваліся да растлумачальнай работы, самі ўважліва прадумвалі пытанні, якія хвалююць працоўных» (Стэцкі).

У сістэме работы райкома віднае месца займаюць кароткатэрміновыя (12-дзенныя) курсы агітатараў з адрывам ад вытворчасці. Намі праведзена ўжо чацвера такіх курсаў. Праз курсы прайшлі 120 агітатараў прадпрыемстваў і промкааперацыі. У праграму курсаў уключаны пытанні новай Канстытуцыі СССР, міжнароднага становішча, арганізацыі і метадаў агітацыйнай работы, геаграфіі СССР і капіталістычных краін. Акрамя таго, 12 гадзін адведзена тэме — «рэстаўратары капіталізма і іх абаронцы». У якасці лектароў запрошаны лепшыя сілы з рэспубліканскага актыва і прафесуры. Выключная ўвага была звернута на глыбокае і ўсебаковае вывучэнне новай Канстытуцыі СССР і даклада таварыша Сталіна. Пры вывучэнні разабраны ілюстрацыйныя матар'ялы да 2 раздзела даклада таварыша Сталіна, змешчаныя ў штодэкадніку ЦК ВКП(б) «В помощь партучебе» № 34—35 за снежань 1936 г. Слухачы падрабязна азнаёміліся з фактычнымі данымі эканамічнага развіцця Савецкага Саюза з 1924 па 1936 год. Пры вывучэнні першай і другой главы Канстытуцыі слухачы азнаёміліся з палітычным, эканамічным і геаграфічным становішчам Савецкага Саюза і кожнай саюзнай рэспублікі, скарыстоўваючы геаграфічныя карты і выступленні дэлегатаў рэспублік, краёў, абласцей на VIII З'ездзе Саветаў.

Курсы далі добрыя вынікі. Агітатар тав. Элькін на нарадзе 4 студзеня адзначыў: «Курсы надта многа мне далі. Я адчуваю, што больш і лепш пачаў разбірацца ў раней не зусім ясных для мяне пытаннях. Лягчэй стала праводзіць гутаркі з рабочымі». Тое самае падкрэслілі агітатары Пекарскі (ф-ка «Окцябр»), Ткачоў (Хлебазавод) і іншыя таварышы.

За апошні час пачалі праводзіць «дзень агітатара» раз у месяц з адрывам ад вытворчасці. Праграма дня: міжнародны агляд за месяц (лектар спыняецца на важнейшых палітычных падзеях, ілюструючы іх наглядна з дапамогаю карт, кіно-хронікі і інш.); рэстаўратары капіталізма і іх абаронцы; вопыт пастаноўкі палітычнай агітацыі ў цэху.

Пасля аднаго з такіх дзён была праведзена нарада агітатараў і заг. парткабінетаў па пытанню зместу «дня агітатара».

Агітатар фабрыкі імя Куйбышэва тав. Чэрчэс на гэтай нарадзе заўважыў:

«Дзень агітатара», безумоўна, неабходна праводзіць сістэматычна кожны месяц. Паколькі «дзень агітатара» не павінен ні замяняць ні падмяніць усю работу па кіраўніцтву агітатарамі як па лініі райкома, так і кіраўнікоў агітналектываў, трэба сур'ёзна падумаць аб яго профілі.

Дзень гэты павінен паслужыць для абагульнення лепшага вопыту агітатараў розных прадпрыемстваў і даць зарадку для ўсваення важнейшых палітычных з'яў як нашага жыцця, так і міжнароднага.

Адсюль не лішне будзе пабудаваць гэты дзень такім чынам.

Міжнародны агляд. Узяць адно вузлавое пытанне. К прыкладу—інтарэсы Германіі і Італіі ў Міжземным моры. Не шкодзіла-б адвесці хоць-бы адну гадзіну для азнаямлення з геаграфічным становішчам адпаведных капіталістычных краін. Неабходна асвятляць важнейшыя пытанні нашага ўнутранага становішча. Невялікі час можна адвесці для абмену вопытам палітычнай агітацыі. Трэба падумаць і аб тым, каб даць агітатарам кваліфікаваныя лекцыі па літаратуры, мастацтву, музыцы і т. п.».

Выходзячы з заўваг агітатараў, мы значна палепшылі змест гэтых дзён.

Станоўчыя вынікі даюць сустрэчы агітатараў розных прадпрыемстваў для абмену вопытам работы. Такія сустрэчы праведзены, напрыклад, на фабрыцы імя Куйбышэва, імя Кагановіча, «Окцябр». Арганізавана сустрэча калектыва агітатараў вытворчасці з агітатарамі чыгункі, нарада 50-ці лепшых агітатараў раёна.

Не гледзячы на рад сур'ёзных недахопаў, ад якіх мы яшчэ не пазбавіліся, нельга не прызнаць, што партарганізацыя раёна дабілася істотнага палепшання палітычнай агітацыі. І галоўны вынік—гэта рост агітатара, паступовае аўладанне складаным майстэрствам агітацыі.

Характэрна выступленне самога агітатара—удзельніка нарады пры райкоме тав. Кагана. Ён гаворыць: «Я вылучан і зацверджан парткомам у якасці агітатара ўжо паўтара года. За гэты час многа вырас. Калі я пачынаў сваю работу з чыткі газетных урыўкаў, то зараз рыхтуюся да самастойных гутарак, складаю канспекты, стараюся жыва расказаць рабочым тэму, каб яны зацікавіліся ёю і такім чынам даць ім найбольшую карысць. Я сам займаюся ў гуртку па вывучэнню гісторыі партыі. Рэгулярна чытаю «Спутник агитатора». «В помощь партучебе», прымаю ўдзел у фабрычным друку. Да гутарак заўсёды сур'ёзна рыхтуюся».

Тав. Ткачоў гаворыць: «Я чытаю мастацкую і палітычную літаратуру, сур'езна працую над сабою. Гутаркі праводжу з канспектам, і рабочыя ўважліва мяне слухаюць. Вось нядаўна праводзіў гутарку ў другой брыгадзе, і мяне прасілі яшчэ прыходзіць. Быў адзін выпадак, калі агітатар дрэнна падрыхтаваўся. Рабочыя адразу яму сказалі, каб ён лепш падвучыўся, а потым ужо прыходзіў праводзіць гутаркі. Трэба быць уважлівым, добра рыхтавацца, бо рабочы калектыў прад'яўляе зараз вялікія патрабаванні».

Заслугоўвае сур'ёзнай увагі ўжо набыты вопыт агітатараў. Агітатар ф-кі «Окцябр» тав. Каган расказаў на нарадзе, што ён практыкуе гутаркі з рабочымі на кватэры. Дапамог адной стаханаўцы адстаяць праз «Звязду» свае законныя правы, парушаныя праформгам. У дні юбілею Якуба Коласа настолькі зацікавіў сваіх слухачоў «Дрыгвой», што большасць рабочых цалкам прачытала гэты твор.

Агітатар ф-кі імя Куйбышэва тав. Чэрчэс расказваў, што яму ўдалося зацікавіць слухачоў канферэнцыяй аб пралівах, якая адбывалася ў Мантрэ. Карыстаючыся матар'яламі «Правды», ён паказаў усю гісторыю барацьбы за пралівы, іх эканамічнае і стратэгічнае зна-

чэнне і перамогу совецкай дыпламатыі. Для гутаркі аб Канстытуцыі тав. Чэрчэс падабраў матар'ял аб тым, што у Амерыцы права голосу маюць людзі з пэўным адукацыйным цэнзам, якім карыстаецца буржуазія для абмежавання выбарчых правоў працоўных, асабліва неграў. Таксама добра ўдалося яму высвятліць пытанне аб значэнні у Англіі аселасці, як сродку пазбаўлення права голасу беспрацоўных.

Такі тып цесна звязанага з рабочаю масай агітатара, які ведае яе запросы, умее ўвязаць яе зацікаўленасць з агульна-палітычнымі пытаннямі і канкрэтнымі задачамі вытворчасці, становіцца ўжо далёка не адзінкавай з'явай на прадпрыемствах раёна. Наш абавязак—усямерна дапамагаць гэтым таварышам вырошчваць сотні новых актывістаў.

* * *

Асноўным зместам палітычнай агітацыі за апошні перыяд з'яўляецца даклад таварыша Сталіна на VIII З'ездзе Советаў, новая Канстытуцыя СССР і Канстытуцыя БССР.

Перад усёй сістэмай палітычнай агітацыі і прапаганды стала адказнейшая задача—давесці да свядомасці працоўных кожнае слова гэтых гістарычных дакументаў, своечасова даць вычарпальныя адказы, накіраваць узросшую актыўнасць мас на ўзмацненне барацьбы за выкананне гаспадарча-палітычных задач.

Аб выключна высокай палітычнай актыўнасці працоўных, іх бязмернай адданасці партыі і правадыру народаў таварышу Сталіну, іх гатоўнасці аддаць усе свае сілы на карысць вялікай соцыялістычнай радзімы сведчаць выступленні рабочых на сходах, шматлікія прыклады выключна высокай прадукцыйнасці працы.

Яркім прыкладам можа служыць заява рабочага абутковай фабрыкі імя Кагановіча—ініцыятара стаханаўскага руху на Беларусі тав. Скабло аб тым, што некаторыя рабочыя фабрыкі не выконваюць сваіх прамых абавязкаў, выцякаючых з артыкула 131-га Канстытуцыі, дапускаюць брак, не берагуць соцыялістычную ўласнасць. Заява тав. Скабло абмяркоўвалася на цэхавых сходах і на нарадзе стаханаўцаў фабрыкі. Стаханаўцы ўзялі на сябе рад канкрэтных абавязацельстваў па палепшанню якасці прадукцыі. На прадпрыемствах шырока разгарнулася агітацыйная работа пад лозунгам практычнага ажыццяўлення Сталінскай Канстытуцыі.

Адданасць партыі і таварышу Сталіну ярка выразілася ў шматлікіх фактах умацавання абараназдольнасці краіны. Па раёну падана звыш 1000 заяў аб жаданні вучыцца на лётчыка. Група студэнтаў 5 курса Мед'інстытута выразіла жаданне працаваць у Далёка-усходнім краі. Калектывы рабочых фабрыкі імя Кагановіча, імя Куйбышэва і раду іншых прадпрыемстваў вядуць перапіску са сваімі таварышамі, якія знаходзяцца цяпер у Чырвонай арміі і пагранічных войсках. Агітатары, чытчыкі і бяседчыкі скарыстоўваюць гэты матар'ял у сваіх гутарках аб задачах умацавання абароны краіны. У выніку многія рабочыя набылі прапусы для сябе і членаў сям'і і прывучыліся ў іх працаваць.

Вывучэнне і растлумачэнне масам работ VIII З'езда Советаў з'яўляецца сур'ёзнай праверкай для усёй сістэмы нашай агітацыйнай работы. І трэба сказаць, што значная частка партарганізацый раёна з гэтай задачай паспяхова спраўляецца.

На жаль, у нас ёсць яшчэ такія партарганізацыі, якія мала клапа-

ціліся аб выхаванні кадраў і цяпер адстаюць у справе агітацыі. Гэта з усёй вычарпальнай яснасцю было ўскрыта на пленуме Кагановіцкага горрайкома КП(б)Б па пытанню аб становішчы палітычнай агітацыі.

У Белкаапсаюзе, у Наркамсаветы існавалі нездаровыя настроі аб непатрэбнасці палітычнай агітацыі сярод супрацоўнікаў савецкіх устаноў, што прыводзіла да адрыву ад мас, няведання людзей і зніжэння якасці работы апарата. Практыка таксама паказала, што класава-варожыя элементы, карыстаючыся адсутнасцю палітычнай агітацыі, вялі сваю падрыўную работу.

Удзельнікі пленума рэзка крытыкавалі становішча палітычнай агітацыі на фабрыцы «Окцябр». Партком фабрыкі недаацаніў ролі палітычнай агітацыі. Агіткалектыў па сутнасці не працаваў. Сакратар парткома тав. Кановік слаба кіраваў работай агітатараў, не наладзіў рэгулярных семінараў. Кіраўніцтва работай агітатараў нярэдка перадаваліся другарадным асобам.

Парторганізацыя шчотачнай фабрыкі не здолела дыферэнцыяваць агітацыйную работу. Работніца гэтай фабрыкі тав. Мешка ў гутарцы з прадстаўніком райкома заявіла: «Я малаграматная, газет не чытаю. Працую на фабрыцы амаль год, але ніхто не клапоціцца аб павышэнні майго - культурнага ўзроўню. Агульныя гутаркі для мяне мала зразумелы, а задаваць пытанні ў прысутнасці вялікай колькасці людзей неяк нязручна. І вось, насяджу, паслухаю ды пайду». Тав. Угліней гаворыць: «Пасля работы ніякіх гутарак з намі не праводзіцца. Дома сядзець нудна. Часам хочацца пачытаць цікавую кнігу, але у бібліятэцы іх мала. Трэба, каб партком праводзіў гутаркі не толькі ў абедзены перапынак, але час ад часу і пасля работы. Рабочыя з прыемнасцю прыдуць паслухаць».

Рабочыя ўносяць масу прапаноў аб палепшанні агітацыі на шчотачнай фабрыцы, праяўляюць вялікую цікавасць да цэлага раду пытанняў унутранага і міжнароднага становішча. Так, тав. Селязнёва рэкамендуе весці гутаркі з групай не больш як у 10—15 чалавек. Тав. Міхасенак прапануе загадзя паведамляць аб тэме гутаркі. Тав. Кадэрман просіць наладзіць гутаркі аб саюзе моладзі, аб народным фронце барацьбы супроць фашызма, аб жыцці рабочых у фашысцкіх краінах. Тав. Маркевіч хоча падрабязна ведаць аб падзеях у Іспаніі. Тав. Шэмко цікавіцца, чаму капіталістычныя краіны стараюцца разлзяліць паміж сабою Кітай, якую ролю ў гэтай справе адыгрывае Японія і што азначаюць апошнія падзеі ў Кітаі.

Становішча палітычнай агітацыі ў Кагановіцкім раёне абмяркоўвалася на апошнім пленуме райкома. Пленум заслухаў даклады аб палітагітацыі на скургалантарэйнай фабрыцы імя Куйбышэва і ў Медінстытуце. Вострай самакрытыкай былі ўскрыты нашы недахопы ў гэтай галіне. Адзначана, што запросы працоўных вывучаюцца недастаткова. Агітацыйная работа часта не дыферэнцыруецца у адпаведнасці з запатрабаваннямі паасобных груп (маладыя рабочыя, кадравікі, жанчыны, шматсямейныя і т. п.). Начныя змены найменш ахоплены сістэмай агітацыйнай работы. Агіткалектывы працуюць усё яшчэ непланамерна і бессістэмна. Мала ўвагі удзяляецца індывідуальнай і групавой кансультацыі агітатараў, рабоце семінараў па раду важнейшых пытанняў. Парткабінеты па сапраўднаму не дапамагаюць у падборы газетных і журнальных матар'ялаў, фактаў з мясцовага жыцця прадпрыемства і наглядных дапаможнікаў. Агітатар не можа атрымаць у парткабінетах патрэбную яму даведку. Агітатар, як

правіла, вядзе гутарку сярод вялікай групы, што не дае яму магчымасці вывучыць запросы паасобных рабочых. Нярэдка яму прыходзіцца праводзіць агітацыйную работу не ў сваім цэху.

Асабліва рэзка крытыкавалася пленумам агітацыйная работа ў інстытутах, у прыватнасці ў Мед'інстытуце. Партыйны камітэт Мед'інстытута не ўлічыў таго, што сярод студэнцкіх мас, навукова-педагагічнага і тэхнічнага персаналу ўсе больш узрастае зацікаўленасць пытаннямі міжнароднага і унутранага жыцця Совецкага Саюза. Агітацыйная работа ў інстытуце праводзілася ад выпадку да выпадку. Ставіліся агульныя даклады для ўсёй масы студэнцтва ў сувязі з чарговымі палітычнымі кампаніямі. Партыйны камітэт не кіраваў партпрымацаванымі да акадэмічных груп, не арганізаваў для іх семінараў, індывідуальных кансультацый, не забяспечыў літаратурай, дыяграмамі, картамі і т. п. Слаба пастаўлена была агітацыйная работа ў акадэмічнай групе, інтэрнатах і зусім ігнаравалася сярод студэнтаў, якія жывуць на прыватных кватэрах. Ні адзін агітатар, ні адзін парторг не зрабілі парткому справаздачы аб сваей рабоце. Навукова-прафесарскі, педагагічны персанал і кіруючыя работнікі інстытута не толькі не вялі агітацыйнай работы ў інтэрнатах, але нават не прысутнічалі на палітгутарках.

Партыйны камітэт не ўлічыў спецыфікі агітацыйнай работы ў інстытуце, не дыферэнцыяваў яе, што прывяло да адрыву ад мас і прытуплення класавай пільнасці. Варожыя элементы карысталіся гэтым для сваёй агітацыйнай работы сярод адсталых груп студэнцтва.

На аснове выяўленых недахопаў пленум райкома намеціў канкрэтны план далейшага разгортвання палітычнай агітацыі: глыбокае вывучэнне гістарычнага даклада таварыша Сталіна і новай Канстытуцыі, арганізацыя сістэматычнага кваліфікаванага інструктажу і забеспячэнне агітатараў метадычным кіраўніцтвам, павышэнне аўтарытэта на вытворчасці, больш шырокае выкарыстанне рэспубліканскага актыва і навукова-прафесарскага персанала для дапамогі ў агітацыйнай рабоце, палепшанне якаснага падбору агітатараў.

У далейшым намечана склікаць 12-дзенныя курсы агітатараў і аднадзенныя семінары з адрывам ад вытворчасці, каб максімальна ахапіць вучобай агітатараў прадпрыемстваў, совецкіх і навучальных устаноў.

Для больш канкрэтнага кіраўніцтва агітацыйнай работай на дробных прадпрыемствах, у промарцелях і совецкіх установах пленум райкома прыняў рашэнне стварыць агіткалектывы: агітатараў дробных прадпрыемстваў; агітатараў совецкіх устаноў; агітатараў промкааперацыі, паставіўшы адначасова пытанне аб арганізацыі парткабінета для абслугоўвання партыйных арганізацый промарцелей Белпромсовета.

Пленум абавязаў парткабінеты наладзіць сістэматычную дапамогу агіткалектывам неабходнай літаратурай, падборам газетных і журнальных матар'ялаў, карт, дыяграм, фактаў з жыцця прадпрыемстваў, быту рабочых і т. п.

Пленум ухваліў думку аб шырокім выкарыстанні для гутаркі у цэхах перапіскі рабочых з Чырвонай арміяй, з калгаснікамі, з роднымі, якія працуюць на новабудоўлях, у прамысловых цэнтрах і т..д.

Даклады, лекцыі, гутаркі, ілюстраваныя яркімі фактамі нашага жыцця, чытка мастацкай і публіцыстычнай літаратуры, жывыя і яркія

насценныя газеты ў цэхах—усё гэта мае вялікае значэнне для ўздыму ўсёй агітацыйнай работы.

Даклад таварыша Сталіна, новая Канстытуцыя СССР, Канстытуцыя БССР і матар'ялы Надзвычайнага VIII З'езда Саветаў СССР і XII Надзвычайнага З'езда Саветаў БССР невычэрпная крыніца разгортвання агітацыі.

Наша бальшэвіцкая агітацыя павінна ўсямерна павышаць рэвалюцыйную пільнасць, выклікаць яшчэ большую нянавісць да класавых ворагаў і іх агентуры, ускрываць карэнні трацкісцка-зіноўеўскай банды і яе прыспешнікаў з лагера правых і па-бальшэвіцку рэагаваць на малейшыя праявы і пошукі варожых пралетарскай дыктатуры сіл.

«На ўсіх этапах развіцця комуністычнай партыі—ад яе зараджэння, ад першых гурткоў, арганізаваных Леніным, да вяршынь яе магутнасці ў нашы дні—агітацыя адыгрывала выключна вялікую ролю. Сіла бальшэвіцкай агітацыі грандыёзна. Яна ўзнімала рабочых Расіі ў пачатку цяперашняга стагоддзя, скалачвала баявыя дружыны, сагравала вялікім полымем комунізма пролетарыяў, сялян, салдат, матросаў у грозны 1917 год; яна скалачвала непераможныя чырвоныя арміі грамадзянскай вайны, паднімала ўвесь працоўны народ на будаўніцтва соцыялізма. І няма нічога дзіўнага ў тым, што бальшэвік-агітатар з'яўляецца адной з найярчэйшых фігур рэвалюцыйнага руху» *).

*) Перадавы „Праўды" ад 7 красавіка 1935 г.

**Фрыдлянд**

**Заг. культпропа Рэчыцкага РК КП(б)Б**

# Палітычную агітацыю—на вышэйшую ступень

Таварышы Ленін і Сталін заўсёды ўдзялялі вялікую ўвагу пытанням прапаганды і палітычнай агітацыі, як самай магутнай зброі ў руках нашай партыі.

Большэвіцкая агітацыя мабілізуе шырокія масы працоўных нашай краіны на актыўную барацьбу за будаўніцтва соцыялізма, выхоўвае нянавісць да ворагаў совецкага народу, завастрае рэволюцыйную пільнасць.

Наша краіна—самая дэмакратычная ў свеце.

Здабытыя рукамі працоўных пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі і правадыра народаў таварыша Сталіна і запісаныя ў Сталінскай Канстытуцыі дасягненні патрабуюць ад нас яшчэ вышэй падняць масавую агітацыю, зрабіць яе палітычна завостранай і зразумелай шырокім масам.

Таварыш Сталін у сваім гістарычным дакладзе аб праекце новай Канстытуцыі ўказаў:

> «Калі народ сям-там і выбярэ варожых людзей, то гэта будзе азначаць, што наша агітацыйная работа пастаўлена з рук вон дрэнна, і мы ўпаўне заслужылі такую ганьбу, калі-ж наша агітацыйная работа будзе ісці па-большэвіцку, то народ не прапусціць варожых людзей у свае вярхоўныя органы. Значыць, трэба працаваць, а не хныкаць».

Партыйныя работнікі павінны ўясніць сабе гэта мудрае ўказанне кіраўніка нашай партыі. Трэба пераглядзець склад агітатараў і паставіць на работу людзей палітычна падрыхтаваных, большэвіцкі вытрыманых, аўладаўшых вялікім майстэрствам палітагітацыі.

Рэчыцкі райком партыі ў апошні час удзяліў выключную ўвагу палітычнай агітацыі. Праверкай было выяўлена, што частка агітатараў не адпавядае свайму прызначэнню. Такія таварышы заменены праверанымі і больш падрыхтаванымі. Усе палітагітатары зацверджаны персанальна парткомамі і на партыйных сходах.

У раёне створана 11 агіткалектываў, якімі ахоплена 244 агітатары. Пры гарадскіх партарганізацыях працуе 111 агітатараў, пры калгасных—133. У планах работ усіх партарганізацый палітагітацыя займае паважнае месца. У планах парткомаў і парторгаў можна знайсці поўнае адлюстраванне таго, кім, калі і па якой тэме будзе праводзіцца ў цэхах, інтэрнатах палітгутарка і чытка.

Усяго агітатараў па раёну 244, з іх: членаў і кандыдатаў партыі— 159, комсамольцаў—49, спачуваючых—28 і беспартыйных—8. Рабочых ад станка—93, калгаснікаў—56, служачых—91. З сярэдняй асветай—18, з няпоўнай сярэдняй—226. Скончыла комвузы—7, вячэрні'я партшколы—189, курсы прапагандыстаў—11, курсы парторгаў і палітагітатараў—21.

Станоўчае заключаецца ў тым, што большасць агітатараў комуністы, сярод якіх вялікі процант рабочых ад станка.

Агіткалектывы вядуць работу па ўцягненню профсаюзнага, совецкага і комсамольскага актыва ў справу агітацыі, спалучаючы яе з работай грамадскіх арганізацый.

Вялікую ўвагу ўдзяляюць агіткалектывы правядзенню палітдзён на прадпрыемствах і ў калгасах. 15 студзеня адбыўся палітдзень на заводзе імя Варашылава. За два тыдні партарганізацыя пачала падрыхтоўку. На цэхавых сходах рабочыя падалі 189 палітычных і гаспадарчых пытанняў. Дакладчык азнаёміўся з імі за тры дні да выступлення. Палітдзень прашоў пры вялікай актыўнасці рабочых.

Нездавальняюча пастаўлена агітацыя на дробных прадпрыемствах і асабліва ў арцелях, якія звычайна расьсеяны па горадзе і маюць невялікія партарганізацыі. Каб палепшыць работу на гэтым участку, райком склікае на інструкцыйныя нарады парторгаў і палітагітатараў некалькіх дробных прадпрыемстваў ці ўстаноў.

Сакратары парткомаў планава праводзяць з агітатарамі інструкцыйныя нарады па асноўных палітычных пытаннях. Адзін дзень у месяц адводзіцца на семінары палітагітатараў з адрывам ад вытворчасці. На семінарах, акрамя агульнапалітычных дысцыплін, чытаюцца лекцыі па геаграфіі і літаратуры. Для менш падрыхтаваных таварышоў арганізоўваюцца кароткатэрміновыя 10-дзённыя курсы. Праз курсы прапушчана ўжо 55 чал. за два разы. У пачатку лютага праслухаюць курсы 25 калгасных палітагітатараў. У праграме курсаў: Сталінская Канстытуцыя, пытанні работы агіткалектываў, контррэволюцыйная дзейнасць рэстаўратараў капіталізма з трацкісцка-зіноўеўскай банды, 14 гадзін адведзена на геаграфію і 12 на літаратуру. Кіруюць курсамі члены бюро райкома і лепшыя настаўнікі.

У калгасах нашага раёна амаль няма пярвічных партарганізацый, створаны толькі тэрытарыяльныя пры сельсоветах. Таму 3—4 разы ў месяц парторгі праводзяць нарады з усімі палітагітатарамі свайго сельсовета для абмену вопытам работы. Агітацыйная работа ў калгасах яшчэ не пастаўлена на належную вышыню. У бліжэйшы час склікаем нараду парторгаў спецыяльна па пытанню палепшання палітагітацыі ў калгасах і на дробных прадпрыемствах.

У цэнтры палітычнай агітацыі за апошні час стаяў даклад таварыша Сталіна і Сталінская Канстытуцыя. Многа ўвагі ўдзелена было пытанням разгортвання стаханаўскага руху, узмацненню абараназдольнасці нашай краіны, міжнароднаму становішчу і асабліва падзеям у Іспаніі.

Вывучэнне даклада таварыша Сталіна і Сталінскай Канстытуцыі садзейнічала яшчэ большаму ўздыму вытворчага энтузіязму працоўных. Завод імя Варашылава к адкрыццю VIII Надзвычайнага З'езда Советаў выканаў свой гадавы план і атрымаў права рапартаваць таварышу Сталіну. Лесазавод імя Кірава поўнасцю асвоіў тэх-

нічную магутнасць станкоў. Сярод рабочых завода—46% стаханаўцаў.

Узнялася актыўнасць калгаснікаў у барацьбе за 7—8 мільярдаў пудоў хлеба. У большасці калгасаў брыгады і звенні ўзялі на сябе абавязацельства даць рэкордны ўраджай. Прыкладам можа служыць Заспенскі сельсовет. Стаханаўцы-энтузіясты — брыгадзіры, звеннявыя—абавязаліся атрымаць сёлета па 25 цэнт. зярна, 500 цэнт. бульбы і 8 цэнт. ільнавалакна з гектара. У гэтым сельсовеце ўключыліся ў стаханаўскі рух за высокі ўраджай 16 брыгад і 34 звенні. Сярод іх—брыгадзіры і звеннявыя тт. **Гарай** Тарас, **Сцельмашок**, **Саснок** Наталля, **Сурто** Гаўрыла, **Гулік** Маня, **Гулік** Прося, **Пархоменка і інш.**

У нас ёсць яшчэ і адстаючыя ўчасткі. Так, партарганізацыя Хлебазавода, Плодаягаднага завода, Заготзярна слаба кіравалі работай агітатараў. Даклад таварыша Сталіна і Сталінская Канстытуцыя да гэтага часу не даведзена да свядомасці рабочых гэтых прадпрыемстваў. Асабліва слаба арганізавана вывучэнне матар'ялаў З'езда Советаў сярод калгаснікаў і аднаасобнікаў раёна. Парторгі Шміт і Шалёнак не арганізавалі глыбокага вывучэння гэтых гістарычных дакументаў сярод калгаснікаў і аднаасобнікаў Дземяхоўскага, Падалескага, Бабіцкага сельсоветаў, абмежаваўшыся толькі дакладам на агульным сходзе калгаснікаў.

Райком партыі накіраваў у гэтыя сельсоветы на 6 дзён групу таварышоў з партыйнага актыва на чале з членамі бюро для арганізацыі больш паглыбленага вывучэння даклада таварыша Сталіна і Сталінскай Канстытуцыі.

Правільная пастаноўка бальшэвіцкай агітацыі яшчэ вышэй узніме рэволюцыйную пільнасць у адносінах да класавых ворагаў і іх агентаў, дапаможа вырваць апошнія карэнні трацкісцка-зіноўеўскай банды—агентуры Гестапо і яе прыспешнікаў—правых апартуністаў, якія хацелі аднавіць капіталізм у нашай краіне.

Задача партарганізацыі—падняць палітагітацыю на такую вышыню, каб яна стала магутнай зброяй мабілізацыі шырокіх мас на барацьбу за далейшыя перамогі соцыялізма, зброяй выхавання свядомых будаўнікоў новага, радаснага жыцця, беззаветна адданых нашай партыі і яе вялікаму правадыру—таварышу Сталіну.

---

# ПАСТАНОВЫ БЮРО ЦК КП(б)Б

## Аб журнале „Большэвік Беларусі“

*Пастанова Бюро ЦК КП(б)Б*

1. Прызнаць сігнал газеты «Праўда» аб памылках, дапушчаных журналам «Большэвік Беларусі» у № 10 і аб беспрытульнасці яго— правільным.

2. Адзначыць, што рэдакцыя «Большэвіка Беларусі» не забяспечыла большэвіцкую работу і пусціла выхад апошняга на самацёк. Указаць намесніку рэдактара журнала тав. Стырнэ, што ён нясе непасрэдную адказнасць за змяшчэнне ў журнале палітычна памылковай заметкі. Папярэдзіць яго, што ў выпадку паўтарэння падобных фактаў ён будзе прыцягнут да суровай партыйнай адказнасці.

3. Зацвердзіць наступны склад рэдкалегіі:
**Рубінштэйн**—адказны рэдактар.
**Готфрыд.**
**Казюк.**

4. Даручыць рэдкалегіі рэарганізаваць журнал «Большэвік Беларусі» у орган, асвятляючы пытанні арганізацыйна-партыйнага будаўніцтва, агітацыі, прапаганды і большэвіцкага друку.

5. Устанавіць перыядычнасць журнала адзін раз у месяц на 6 друкаваных аркушах.

---

## Аб справаздачна-перавыбарчым сходзе у Бярэзінскай партарганізацыі

*Пастанова Бюро ЦК КП(б)Б*

Лічыць няправільным, што Бярэзінскі РК правёў справаздачна-перавыбарчы сход і ўтварыў выбары РК і бюро РК КП(б)Б у адсутнасці першага сакратара РК КП(б)Б—ЦК КП(б)Б разглядае гэта, як недаацэнку з боку Бярэзінскага РК такога важнейшага пытання, як перавыбары кіруючых партыйных органаў.

Адмяніць рашэнне Бярэзінскай райпартарганізацыі аб выбарах новага складу РК і бюро РК. Прапанаваць Бярэзінскаму РК у другі раз правесці справаздачна-перавыбарчы сход 20 лютага 1937 г.

Прапанаваць усім сакратарам АК, ГК і РК КП(б)Б гэта рашэнне ЦК КП(б)Б давесці да ведама бюро АК, ГК і РК КП(б)Б.




---


Уп. Галоўлітбела № Л—1903
Тыраж 5.900 экз.
330.880 друк. зн. (6 арк.)
Здана ў набор 8/II 37 г.
Падпісана да друку 28/II-37 г.

РЭДКАЛЕГІЯ: Г. Рубінштэйн (адк. рэдактар), Л. Готфрыд, Н. Казюк

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 186.

ЦАНА 40 кап.



020

# УВАГА!

Рэдакцыя журнала „Большэвік Беларусі" даводзіць да ведама ўсіх падпісчыкаў, што на падставе пастановы Бюро ЦК КП(б)Б журнал „Большэвік Беларусі" з палітыка-эканамічнага штомесячніка рэарганізуецца ў журнал партыйнага будаўніцтва. Акрамя агульнага аддзела, у якім будуць асвятляцца пытанні арганізацыйна-партыйнага будаўніцтва, партыйнай прапаганды, палітагітацыі і пытанні большэвіцкага друку,—у журнале, пачынаючы з № 3, уводзяцца аддзелы: „У дапамогу прапагандысту", „У дапамогу парторгу і сакратару парткома", „Жыццё масцовых партарганізацый" і „У Цэнтральным Камітэце КП(б)Б".

У аддзелах журнала „Большэвік Беларусі": „У дапамогу прапагандысту", „У дапамогу парторгу і сакратару парткома" сістэматычна будуць давацца кансультацыі па пытаннях партыйнай прапаганды, палітагітацыі і арганізацыйна-партыйнага будаўніцтва, а ў астатніх двух аддзелах будзе асвятляцца жыццё масцовых партарганізацый і паведамленні аб важнейшых рашэннях ЦК КП(б)Б па пытаннях партыйнага будаўніцтва і ўнутрыпартыйнага жыцця.

Назва журнала застаецца ранейшай—„Большэвік Беларусі"

## УМОВЫ ПАДПІСКІ РАНЕЙШЫЯ

На 1 мес. — 40 кап.
„ 3 „ — 1 р.-20 „
„ 6 „ — 2 „ 40 „
„ 9 „ — 3 „ 60 „

## ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:

штомесячна ўсімі райбюро „Саюздруку", упаўнаважанымі па друку на прадпрыемствах, усюды на пошце і пісьманосцамі.